













Т. Лабанава
С. Сяргеева
Т. Мацкевіч

# Выкарыстанне відэаматэрыялаў у навучальным працэсе і выхаваўчай працы

Asociace pro mezinárodní otázky
Association for International Affairs
TRANSITION
Ministry of Foreign Affairs of the Czech Republic
Настаўнік.info
Супольнасць

TRANSITION
Ministry of Foreign Affairs of the Czech Republic

Asociace pro mezinárodní otázky
Association for International Affairs

Выкарыстанне відэаматэрыялаў у навучальным працэсе і выхаваўчай працы / Метадычны дапаможнік[1]

Аўтары-складальнікі: Таццяна Лабанава, Святлана Сяргеева, Тамара Мацкевіч

Рэдактары: Вінцук Вячорка, Станіслава Літвінчук

Вёрстка: Вера Мацкевіч

Чэшская школа дакументальнага кіно і знакаміты фестываль “Адзіны свет” вядомыя ўсяму свету. Але не ўсе ведаюць, што Чэхія мае ўнікальны досвед працы з фільмам як сродкам навучання. Для гэтага педагогі ў супрацоўніцтве з кінематаграфістамі распрацавалі адмысловыя методыкі, стварылі падручнікі і працоўныя сшыткі для вучняў.

Гэты дапаможнік напісаны беларускімі настаўнікамі, якія азнаёміліся з чэшскім досведам і перанеслі яго на беларускую глебу. Матэрыялы дапаможніка акцэнтуюць увагу педагога на тым, як можна карыстацца такім інструментам, як відэафільм, для фармавання найперш сацыяльных і грамадзянскіх кампетэнцый вучняў, якім надаецца найменшая ўвага ў беларускай школе.

Дапаможнік змяшчае сцэнары заняткаў, якія можна выкарыстоўваць на ўроках гісторыі, грамадазнаўства, а таксама для выхаваўчых і развіццёвых мэтаў. Дапаможнік рэкамендуецца настаўнікам, класным кіраўнікам, сацыяльным педагогам, а таксама шырокаму колу адукатараў, якія цікавяцца грамадазнаўчай тэматыкай.

Праект здзейснены пры дапамозе Асацыяцыі па міжнародным супрацоўніцтве і Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Чэхія, якія паспрыялі перадачы адкукацыйнага досведу Чэшскай рэспублікі беларускім настаўнікам, а таксама прапанавалі відэаматэрыялы для дапаможнага дыску.

TRANSITION

Asociace pro mezinárodní otázky
Association for International Affairs

**Змест**

# 1. Выкарыстанне відэаматэрыялаў для фармавання сацыяльных і грамадзянскіх кампетэнцый навучэнцаў

Для беларускіх педагогаў выкарыстанне відэаматэрыялаў на занятках – не навіна. Існуюць цэлыя бібліятэкі навучальных фільмаў для розных прадметаў. Настаўнікі з ахвотай карыстаюцца відэаінструментамі, бо яны маюць шматлікія перавагі і асаблівасці.

Па-першае, новае пакаленне вучняў належыць да аўдыёвізуальнай цывілізацыі. Хочам мы ці не хочам, любы экран прыцягвае ўвагу вучня нашмат больш, чым тэкст кнігі. Нашыя дзеці - ахвяры тэле-камп'ютэрнай залежнасці. Відэафільмы дазваляюць выкарыстоўваць моцныя бакі гэтай залежнасці, скіроўваць яе на навучальныя мэты.

Па-другое, відэафільмы дапамагаюць выкарыстоўваць ці чаргаваць розныя каналы паступлення інфармацыі: слыхавы, зрокавы, маторны. Гэта дапамагае больш трывала замацаваць веды.

3) Сучасныя камп'ютэрныя тэхналогіі дазваляюць з дапамогай анімацыі, відэаролікаў, розных спецэфектаў даступна тлумачыць складаныя з'явы. Напрыклад, працэсы, пазбаўленыя нагляднасці, "ажываюць" і становяцца зразумелымі і простымі ў выглядзе кап'ютэрных мадэляў. Вучням даецца магчымасць зазірнуць ў мікра- і макрасвет: віртуальная рэальнасць дазваляе дэманстраваць з'явы, якія ў звычайных умовах прадэманстраваць складана ці немагчыма.

4) Выкарыстанне відэматэрыялаў дазваляе настаўніку эфектыўна праводзіць разнастайныя формы заняткаў: урок – назіранне, урок – семінар, урок – віртуальная экскурсія. Прычым зладзіць такую экскурсію можна ў космас, у музей, на прыроду, у мінулае, на радзіму пісьменніка…

5) Незаменным інструментам сталі відэаролікі для школьных лінгвістаў. Лінгвісты не маюць моўнага бар'ера і могуць карыстацца агульнымі методыкамі, распрацаванымі ў розных краінах для вывучэння замежных моваў (напрыклад, агучка фільма, калі дзеці спачатку, слухаюць тэкст, потым укладаюць яго ў вусны актора). Больш складана выкладчыкам роднай мовы і літаратуры. Амаль няма добрых экранізацый школьных твораў, а тыя, што створаныя, могуць адбіць ахвоту чытаць твор у арыгінале.

Усё вышэйнапісанае паказвае, як можна, выкарыстоўваючы відэафільмы ў якасці інструмента, палепшыць засваенне матэрыялу. Але аздабленне відэашэрагам традыцыйных заняткаў слаба ўплывае на самае галоўнае ў адукацыі – фармаванне ключавых кампетэнцый.

**Ключавыя кампетэнцыі**

Глабалізацыя працягвае ставіць перад адукацыяй новыя задачы: кожны грамадзянін павінен валодаць шырокім колам кампетэнцый, каб гнутка адаптавацца да хутка зменлівага ўзаемазвязанага свету.

Абапіраючыся на новую ролю адукацыі ў інфармацыйным грамадстве, Парламент і Рада Еўропы ў 2006 годзе выпрацавалі "Рэкамендацыі аб ключавых кампетэнцыях навучання на працягу жыцця[1]".

Кампетэнцыі ў дадзеным дакуменце азначаюцца як камбінацыя ведаў, навыкаў і стасункаў у адпаведным кантэксце. Ключавымі з'яўляюцца такія кампетэнцыі, якія неабходныя ўсім індывідам для асабістай рэалізацыі і развіцця, актыўнай грамадзянскай пазіцыі, сацыяльнай ангажаванасці і занятасці.

Вылучаюць восем ключавых кампетэнцый:

1. Камунікацыя на роднай мове;
2. Камунікацыя на замежных мовах;
3. Матэматычная пісьменнасць і базавыя кампетэнцыі ў навуцы і тэхналогіі;
4. Камп'ютэрная пісьменнасць;
5. Засваенне навыкаў навучання;
6. Сацыяльныя і грамадзянскія кампетэнцыі;
7. Пачуццё наватарства і прадпрымальніцтва;
8. Дасведчанасць і здольнасць выяўляць сябе ў культурнай сферы.

Пералічаныя ключавыя кампетэнцыі аднолькава важныя, бо кожная з іх можа дапамагчы паспяховаму жыццю ў грамадстве ведаў.

Кампетэнтнасць – гэта гатовасць да дзеяння, да выканання вызначаных функцыяў.

Для таго, каб вучні набывалі базавыя кампетэнцыі і фармавалі каштоўнасці, настаўніку недастаткова прынесці на ўрок праектар і экран. Яму трэба крочыць роўна з часам.

Кампетэнцыйны падыход у адукацыі азначае:

- узгадняць мэты адукацыі, якія ставіць педагог, з уласнымі мэтамі вучняў;

[1] (Recommendation on key competences for lifelong learning, (2006/962/EC), 18.12.2006 http://eur-lex.europa.eu/LexUriServ/site/en/oj/2006/l_394/l_39420061230en00100018.pdf

- напоўніць урокі новым зместам, дзе частку інфармацыі вучні будуць шукаць самастойна, аналізаваць, абмяркоўваць, абараняць сваю думку аргументамі;

- паступова павялічваць самастойнасць вучня, фармаваць адказнасць за навучанне, за пасяховасць і няўдачы ў дасягненні мэтаў;

- забяспечыць умовы для фармавання практычных навыкаў, набыцця досведу стасункаў, выбудоўвання каштоўнаснай іерархіі вучняў.

Чалавек, які ўмела валодае тэхналогіямі і рознабаковай інфармацыяй, набывае новы стыль мыслення, па-іншаму падыходзіць да ацэнкі ўзніклых праблемаў, да арганізацыі сваёй дзейнасці. У нашым выпадку, калі настаўнік мае якасныя навучальныя відэаматэрыялы і валодае сучаснай методыкай іх ужывання, можна гаварыць пра фармаванне ключавых кампетэнцый, прычым як у вучняў, так і ў настаўніка: перш за ўсё сацыяльных кампетэнцый, камп'ютэрнай пісьменнасці, засваення навыкаў навучання, пачуцця наватарства і прадпрымальніцтва.

Але найбольш важна засяродзіць увагу педагога на тым, як можна карыстацца такім інструментам, як відэафільм, для фармавання сацыяльных і грамадзянскіх кампетэнцый вучняў, якім надаецца найменшая ўвага ў беларускай школе.

***Сацыяльныя кампетенцыі*** ўключаюць асабістыя, міжасабовыя і міжкультурныя кампетэнцыі і ахапляюць усе формы паводзін, што дазваляюць індывідам эфектыўна і канструктыўна ўдзельнічаць у грамадскім і працоўным жыцці, а таксама пры неабходнасці вырашаць канфлікты. Грамадзянскія кампетэнцыі дазваляюць індывідам ўдзельнічаць у грамадзянскім жыцці, грунтуючыся на веданні сацыяльных і палітычных паняццяў і структур ды гатовасці да актыўнага і дэмакратычнага ўдзелу.

Для фармавання неабходных ведаў, навыкаў і каштоўнасцяў, звязаных з дадзенымі кампетэнцыямі, настаўнік можа падабраць фільм ці відэаролік адпаведнага зместу.

Сёння ў інтэрнэт-прасторы існуе шмат сэрвісаў, якія даюць магчымасць карыстання відэарэсурсамі:

- youtube.com
- teachertube.com
- belsat.eu
- vision.rambler.ru
- video.yahoo.com
- video.yandex.ru і іншыя.

Прагляд відэасюжэту – гэта толькі адна складовая частка занятку. Выбар метадаў абмеркавання, аналізу інфармацыі, рэфлексіі залежыць ад мэтаў, якія ставіць настаўнік. Розныя актыўныя метады навучання, апісаныя ў літаратуры, спрыяюць выпрацоўцы і замацаванню розных сацыяльных навыкаў і ўменняў: вучаць будаваць канструктыўныя стасункі ў розных сферах, праяўляць талерантнасць, выяўляць і разумець розныя пункты гледжання, весці перамовы, ствараць атмасферу даверу, ладзіць са стрэсам і пачуццём фрустрацыі, размяжоўваць асабістую і прафесійную сферы; фармуюць пачуццё прыналежнасці да сваёй мясцовасці, краіны, Еўропы, жаданне і гатовасць ўдзельнічаць у дэмакратычным прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях.

Рана ці позна, і ў нашым грамадстве адбудуцца змены. Зменіцца і сутнасць навучання, адукацыя будзе больш набліжаная да сусветных стандартаў. Але ўжо цяпер мы павінны клапаціцца, каб нашыя дзеці выходзілі ў жыццё больш падрыхтаванымі: ведалі свае правы, умелі карыстацца законамі, бараніць свае інтарэсы, умелі прымаць рашэнні, выконваць лідэрскія ролі, талерантна ставіцца да супрацьлеглых меркаванняў, супрацоўнічаць з іншымі ды шанаваць іх правы.

## 2. Правілы працы з відэафільмамі

1. Настаўнік загаддзя павінен прагледзець фільм.
2. Тэхніка мусіць быць спраўнай і загадзя наладжаннай.
3. Не пачынайце працу з фільма аб гіперпраблемах, каб не шакаваць аўдыторыю.
4. Калі фільм вялікі, то выкарыстоўвайце толькі часткі фільма.
5. Папярэдне пакажыце на мапе месца, пра якое ідзе гаворка ў фільме.
6. Пасля фільма абавязкова павінна быць рэфлексія.
7. Не чакайце зашмат ад дзіцячай аўдыторыі.
8. Не прымушайце дзяцей гаварыць.
9. Пажадана запрасіць у аўдыторыю спецыяліста ў тэме размовы.
10. Выкарыстоўвайце свае моцныя бакі.

# 3. Сцэнары правядзення заняткаў

## 3.1. Сцэнар правядзення занятку на тэму "Негвалтоўная барацьба"

*Сцэнар выбудаваны на выкарыстанні відэафільма* ***"Ґандзі"****, які апавядае пра мірныя сат'яґрагі, што ладзіліся ў Індыі 30-х гг. Магатмам Ґандзі.*

**Мэта**: Паказаць удзельнікам, як пачыналася гісторыя негвалтоўнага супраціву і якія былі яе вынікі.

**Мэтавая група:** старэйшыя школьнікі, моладзь, настаўнікі, 15-20 чалавек.

**Чаканыя вынікі:**

- сфармаванасць ва ўдзельнікаў уяўлення аб прычынах, асаблівасцях і выніках мірных сат'яґраг у Індыі;

- смармаванасць разумення таго, што мірны шлях барацьбы можа быць не менш эфектыўны, чым гвалтоўны супраціў.

**Неабходны час:** 80 - 90 хвілін.

**Выкарыстаныя метады:** Метад "PRES", метад "Няскончаны сказ", складанне карты мыслення.

**План занятку:**

1. Міні-лекцыя на тэму "Магатма Ґандзі: гісторыя жыцця і барацьбы" - 10 хв.

2. Прагляд відэастужкі - 30 хв.

3. Абмеркаванне фільма:

А. Складанне карты мыслення "Негвалтоўны супраціў" - 5 хв.

Б. Метад "PRES" - 25 хв.

5. Падвядзенне вынікаў занятку - 10 хв.

**Хада занятку:**

Калі вы толькі пачынаеце казаць пра тэму негвалтоўнага супраціву, мэтазгодна найперш увесці паняцце **негвалтоўны супраціў**.

***Негвалтоўны супраціў*** *- практыка дасягнення палітычных мэтаў без ужывання гвалту: шляхам грамадзянскага непадпарадкавання, страйкаў, адмовы ад супрацы, байкоту, сімвалічных пратэстаў.*

**1. Міні - лекцыя на тэму "Магатма Ґандзі: гісторыя жыцця і барацьбы" (Дададак 1).**

*Мэта лекцыі - увядзенне навучэнцаў у тэму гутаркі. Лекцыя дапаможа скласці агульнае ўяўленне пра чалавека, з імем якога злучана эра негвалтоўнага супраціву.*

Як варыянт: Можна замест - ці разам - з лекцыяй пра Ґандзі апавесці пра прынцыпы сат'яґрагі (Дададак 2).

**2. Прагляд відэастужкі.**

*Фільм дазволіць удзельнікам пераканацца, наколькі эфектыўнай можа быць негвалтоўная барацьба, асабліва, калі яна яднае ўвесь народ у межах адзінай мэты - атрыманне незалежнасці.*

**3. Складанне карты мыслення "Негвалтоўны супраціў".**

Карта мыслення дапаможа прэзентаваць праблему ці ідэю комплексна. Яна можа мець розную схему, але ў яе мэтазгодна ўнесці наступныя часткі:




**4. Абмеркаванне фільма.**

*Метад "PRES" дазваляе развіць навыкі пісьменнага фармулявання свайго пункту гледжання, пазіцыі ў дыскусіі, спрыяе ўдасканаленню сістэмы аргументацыі.*

P - пункт гледжання

R - прычына

E - прыклад

S - вынік

Удзельнікаў можна разбіць на групы ці на пары. Яны атрымліваюць карткі з тэмамі дыскусіі для пабудовы ўласных аргументаў паводле метаду "PRES". Тэмы фармулююцца ў залежнасці ад узросту, прафесійнай падрыхтоўкі ўдзельнікаў.

*У дадзеным выпадку можна засяродзіцца на двух асноўных аспектах:*

- Негвалтоўны супраціў - праўдзівы шлях да здабыцця волі;

- Толькі ўзброеная барацьба можа прынесці поспех.

Пасля ладзіцца дыскусія, дзе гучаць аргументы “за” і “супраць” і фармуецца агульны пункт гледжання.

**5. Падвядзенне вынікаў занятку.**

*Можна ўжыць метад “Нясканчаны сказ”*

- Мне больш за ўсё запомнілася…

- Для мяне было адкрыццём…

- Я б зрабіла(ў) інакш…

- Цяжэй за ўсё мне было…

## 3.2. Сцэнар занятку на тэму “Негвалтоўны супраціў”

У сцэнары выкарыстоўваецца фільм **“Нэшвіл. Мы былі ваярамі”** пра барацьбу амерыканскіх чарнаскурых з сегрэгацыяй і расавым прыгнётам.

**Мэта:** Уводзіны ў тэматыку негвалтоўнага супраціву, азнаямленне з тым, што гэтае паняцце азначае, якія метады барацьбы існуюць і як яны ўжываліся на практыцы.

**Мэтавая група:** старэйшыя школьнікі, моладзь, настаўнікі,15-20 чалавек.

**Чаканыя вынікі:**

- сфармаванасць разумення таго, што мірны шлях барацьбы можа быць не менш эфектыўны, чым гвалтоўны супраціў.

**Неабходны час:** 85 - 90 хвілін

**Выкарыстаныя метады:** “Мазгавы штурм”, SWOT – аналіз, метад “Люстэрка задняга агляду”.

**План занятку:**

1. Фармуляванне паняцця “негвалтоўны супраціў” (праца з даведнымі матэрыяламі) – 5 хв.

2. Міні-лекцыя на тэму “З гісторыі негвалтоўнага супраціву” - 10 хв.

3. Прагляд відэафільма - 30 хв.

4. Абмеркаванне фільма:

А. Укладанне SWOT-аналізу, падача вынікаў (праца ў групах) - 25 хв.

Б. Аналіз “Метадаў негвалтоўнага пратэсту і пераканання”, прапанаваных Дж. Шарпам - 5 хв.

5. Падвядзенне вынікаў занятку - 10 хв.

**Хада занятку:**

**1. Што такое негвалтоўны супраціў?**

Выкладчык раздае ўдзельнікам даведны матэрыял (паказаны ніжэй ці любы іншы), дзе няма наўпростага ўказання, што такое “негвалтоўны супраціў” (Дадатак 3), і просіць сфармуляваць гэтае паняцце.

| |
|---|
| Як варыянт можна ўжыць метад “Мазгавы штурм” у прапанаваным пытанні. |

Выслухаўшы меркаванні ўдзельнікаў, выкладчык прапаноўвае сваё азначэнне.

***Негвалтоўны супраціў*** *- практыка дасягнення палітычных мэтаў без ужывання гвалту: шляхам грамадзянскага непадпарадкавання, страйкаў, адмовы ад супрацы, байкоту, сімвалічных пратэстаў.*

**2. Міні-лекцыя.**

| |
|---|
| Можа ўкладацца паводле гістарычнага прынцыпу: ад Ґандзі да сучаснасці, а можа проста закранаць асноўныя прынцыпы і падыходы негвалтоўнага супраціву (як у прапанаваным матэрыяле) (Дадатак 4). |

**3. Прагляд відэафільма.**

Відэафільм пад назвай “Нэшвіл. "Мы былі ваярамі” распавядае пра негвалтоўную барацьбу амерыканскіх чарнаскурых жыхароў з сегрэгацыяй і расавым прыгнётам. Барацьба чарнаскурых маладых людзей за свае правы пачынаецца ў г. Нэшвіле на поўдні ЗША ў 1960 г. Студэнты амерыканскага баптысцкага каледжа пачынаюць акцыі, мэта якіх - расхістанне рэжыму сегрэгацыі ў горадзе. Метадычна і ўпарта яны ладзяць шэраг акцыяў, праходзяць праз турму і нянавісць, але дамагаюцца каласальных вынікаў. Мэр горада абвяшчае дэсегрэгацыю страўняў і крамаў. Услед за Нэшвілам да барацьбы далучаюцца іншыя гарады ЗША.

У фільме выкарыстоўваецца мноства дакументальных кадраў, а таксама інтэрв'ю з удзельнікамі тых падзеяў.

**4. Абмеркаванне фільма.**

Пры абмеркаванні таго альбо іншага відэафільма можна выкарыстаць розныя метады. Прапанаваны ў сцэнары метад мае назву **SWOT-аналіз.**

***SWOT*** *- метад аналізу ў стратэгічным планаванні, які палягае на падзеле фактараў і з'яваў на* <u>*чатыры*</u> *катэгорыі: Strengths (Моцныя бакі), Weaknesses (Слабыя бакі), Opportunities (Магчымасці) і Threats (Пагрозы).*

| | |
|---|---|
| Моцныя бакі | Магчымасці |
| Слабыя бакі | Пагрозы |

Падзяліце ўдзельнікаў на групы (выкарыстайце які-небудзь інтэрактыўны метад) і прапануйце кожнай групе папрацаваць над адной з катэгорыяў SWOT-аналізу, а потым прэзентаваць сваю працу.

Такім чынам, удзельнікі маюць магчымасць усебакова абмеркаваць катэгорыю негвалтоўнага супраціву, выкарыстаўшы атрыманыя веды і прыклады з фільма.

**Другой часткай абмеркавання можа стаць аналіз метаду негвалтоўнага пратэсту і пераканання, прапанаваных Дж. Шарпам.**

Папрасіце ўдзельнікаў праглядзець тэкст і сказаць, якія метады выкарысталі для барацьбы чарнаскурыя жыхары Нэшвіла (Дадатак 5).

Як варыянт: удзельнікі разбіваюцца на групы і аналізуюць 6 прынцыпаў негвалтоўнага супраціву Марціна Лютэра Кінга, вылучаючы ў іх важныя дадатныя моманты, альбо можна кожнаму прынцыпу прапанаваць контраргумент (Дадатак 6).

**5. Падвядзенне вынікаў занятку.**

Падводзіць вынікі можна паводле звычайнай схемы. Напрыклад, прапануйце ўдзельнікам адказаць на пытанні:

- Што для вас актуальна ў тэме сённяшняй сустрэчы?
- Ці сустрэча мае для вас практычнае значэнне?
- Якія прыёмы і метады здаліся вам цікавымі і чаму?
- Вашыя пажаданні ўдзельнікам сустрэчы.
- і інш.

Калі аўдыторыя моладзевая, то ёй, напэўна, будзе цікавы іншы спосаб рэфлексіі. Можна прапанаваць метад **"Люстэрка задняга агляду"**.

1. Вядоўца параўноўвае сустрэчу з паездкай на аўтамабілі і нагадвае ўдзельнікам пра функцыйную ўласцівасць люстэрка задняга агляду, якая дазваляе ўбачыць, што адбываецца ззаду.

2. Затым прапаноўвае ўдзельнікам цягам некалькіх хвілінаў прааналізаваць сустрэчу праз сімвалічнае "люстэрка задняга агляду" з дапамогай наступных пытанняў: "Што спадабалася?" і "Што прымусіла задумацца?" Па сканчэнні часу ўсе выказваюцца па коле.

TRANSITION

Asociace pro mezinárodní otázky
Association for International Affairs

## 3.3. Сцэнар правядзення занятку на тэму "Негвалтоўны супраціў"

*Сцэнар прадугледжвае выкарыстанне відэафільма* **"Польшча…"**, *які распавядае аб пачатку актыўнай дзейнасці польскага прафсаюза "Салідарнасць" у 80-я гады 20-га стагоддзя*

**Мэта:** Удзельнікі будуць мець уяўленне пра дзейнасць прафсаюза "Салідарнасць" у 80-я гады 20 стагоддзя, даведаюцца пра асаблівасці прафсаюзнай барацьбы за правы працоўных.

**Мэтавая група:** старэйшыя школьнікі, моладзь, маладыя дзеячы прафсаюзнага руху, 15-20 чалавек.

**Чаканыя вынікі:**

- смармаванасць ва ўдзельнікаў уяўлення аб тым, што прафсаюз гэта рэальная рухаючая сіла ў барацьбе за сацыяльныя змены ў грамадстве.

**Неабходны час:** 80 - 90 хвілін.

**Выкарыстаныя метады:** Метад "Бумеранг", метад "Вольная дыскусія", метад "Вагончыкі".

| |
|---|
| Калі вы толькі пачынаеце гаварыць аб тэме негвалтоўнага супраціву, то мэтазгодна першапачаткова ўвесці паняцце **негвалтоўны супраціў.** |

**План занятку:**

1. Міні - лекцыя на тэму "З гісторыі прафсаюзнага руху. Польская «Салідарнасць»" - 10 хв.

2. Прагляд відэафільма - 30 хв.

3. Абмеркаванне фільма:

*А.* Метад "Бумеранг" - 20 хв.

*Б.* Метад "Вольная дыскусія" - 15 хв.

4. Падвядзенне вынікаў занятку метад "Вагончыкі" - 10 хв.

**Хада занятку:**

**1. Міні - лекцыя на тэму "З гісторыі прафсаюзнага руху. Польская «Салідарнасць»" (Дадатак 7).**

**2. Прагляд відэафільма.**

Фільм распавядае аб барацьбе польскіх працоўных за свае правы пад кіраўніцтвам прафсаюза "Салідарнасць". Распачаты ў 1980 г. страйк працоўных на судаверфі ў Гданьску паслужыў пачаткам перыяду негвалтоўнага супраціву ў Польшчы, які завяршыўся ў 1989 г. перамогай Л. Валенсы на прэзідэнцкіх выбарах.

**3. Абмеркаванне відэафільма.**

Пры абмеркаванні фільма можна скарыстацца метадам "Бумеранг".

Падзяліце ўдзельнікаў на групы (у залежнасці ад колькасці пытанняў, якія абмяркоўваюцца) і прапануйце кожнай групе на працягу некалькіх хвілін абмеркаваць адно пытанне, а вынікі абмеркавання зафіксаваць на плакаце.

Затым прапануйце ўдзельнікам абмяняцца плакатамі паводле гадзіннікавай стрэлкі і дапоўніць меркаванне папярэдняй групы. І так датуль, пакуль кожная з групаў не атрымае назад сваё першапачатковае пытанне, адказ на якое і агучыць.

**Для абмеркавання можна ўзяць наступныя пытанні:**

1. Чаму страйк, пачаты "Салідарнасцю" былў падтрыманы жыхарамі Гданьска і працоўнымі іншых гарадоў? Якія фактары згуртавання народа можна назваць?

2. Якую тактыку і чаму прыняў прафсаюз пры правядзенні перамоваў з уладамі?

3. Чаму поўная перамога "Салідарнасці" адбываецца толькі праз 9 гадоў?

*Затым можна арганізаваць <u>вольную дыскусію</u> на тэму "Што, на ваш погляд, перашкаджае і што спрыяе арганізацыі ў Беларусі масавых акцый негвалтоўнага супраціву"?*

**4. Падвядзенне вынікаў.**

**Метад "Вагончыкі".**

Дадзены метад дазваляе даць адзнаку кожнаму этапу занятку, дазваляе вызначыць памылкі і найбольш удалыя моманты.

На плакаце трэба намаляваць паравоз з вагончыкамі, колькасць якіх адпавядае колькасці этапаў занятку.

Затым вядоўца просіць удзельнікаў даць адзнаку кожнаму этапу сустрэчы, замацаваўшы каляровы стыкер з запісамі на адпаведны вагон.

Затым усе ўдзельнікі сустрэчы маюць магчымасць азнаёміцца з прапанаванымі каментарамі.

## 3.4. Сцэнар урока на тэму: “Прававы статус чалавека і грамадзяніна. Канстытуцыйныя правы і абавязкі грамадзян”

**Мэты ўрока:**

• навучэнцы могуць назваць асноўныя канстытуцыйныя правы і прадэманстраваць сітуацыі, калі гэтыя правы могуць быць парушаныя (правамерна і неправамерна),

• вучні фармулююць асноўныя праблемы ў сферы правоў чалавека і аргументуюць важнасць іх рашэння,

• навучэнцы ўзаемадзейнічаюць паміж сабой для рашэння пазнавальных задач, ацэньваюць сваю дзейнасць на ўроку.

**Мэтавая група:** 11 клас.

**Неабходны час:** 90 хвілін.

**Выкарыстаныя метады:** праца ў групах, праца з відэаматэрыяламі.

**Абсталяванне:**

• відэаролікі па правах чалавека (Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека),

• тэксты Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека (Дадатак 9),

• Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь,

• матэрыялы для працы ў групах (папера, ручкі),

• матэрыялы для запаўнення праблемнага поля (інтэрактыўная дошка альбо папера і маркеры, альбо дошка і каляровыя крэйды).

**План правядзення ўрока:**

1. Актуалізацыя ведаў навучэнцаў - 7-8 хв.
2. Арганізацыя групавой працы - 3-5 хв.
3. Пастаноўка праблемы, запаўненне праблемнага поля - 20-25 хв.
4. Вывучэнне тэмы “Правы чалавека” - 25-30 хв.
5. Вывучэнне тэмы “Калі правы могуць быць абмежаваныя” - 10 хв.
6. Замацаванне вывучанага матэрыялу - 7-10 хв.
7. Рэфлексія - 5-7 хв.
8. Хатняе заданне - 2-3 хв.

**Хада занятку:**

**1. Актуалізацыя ведаў навучэнцаў .**

*Настаўнік:*

- паведамляе тэму ўрока,
- арганізуе сціслае паўтарэнне вывучанага раней матэрыялу (аб'ектыўнае і суб'ектыўнае права, пакаленні правоў),
- прапаноўвае навучэнцам выказаць свае меркаванні аб важнасці вывучэння дадзенай тэмы.

*Навучэнцы:*

- пры дапамозе настаўніка актуалізуюць атрыманыя раней веды (пры магчымасці можна выкарыстаць прэзентацыі),
- выказваюць свае меркаванні аб неабходнасці вывучэння дадзенай тэмы, фармулююць пытанні, на якія яны жадалі б атрымаць адказ падчас урока.

**2. Арганізацыя групавой працы.**

*Настаўнік* любым спосабам дзеліць навучэнцаў на групы, нагадвае правілы працы ў групах.

**3. Пастаноўка праблемы, запаўненне праблемнага поля.**

*Настаўнік:*

- дэманструе відэафільм, прысвечаны Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека,
- прапаноўвае навучэнцам запоўніць праблемнае поле.

*Навучэнцы:*

- глядзяць відэафільм,
- абмяркоўваюць у групах, якія праблемы можна вылучыць у сферы правоў чалавека.

*Настаўнік* прапаноўвае навучэнцам абмеркаваць у групах адну з праблем і адказаць пісьмова, а затым вусна, на пытанне: "Чаму гэтую праблему неабходна вырашаць?"

*Навучэнцы* абмяркоўваюць у групах пытанні, прэзентуюць адказы.

*Настаўнік* фіксуе адказы навучэнцаў на праблемным полі, выдзеляе праблему, звязаную з недастатковымі ведамі па тэме.

**4. Вывучэнне тэмы "Правы чалавека".**

*I. Настаўнік* прапаноўвае навучэнцам шэраг відэаролікаў, прысвечаных правам чалавека, зафіксаваным ва Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека (10 - 15 ролікаў, з улікам часу).

*Навучэнцы*, карыстаючыся тэкстамі Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, вызначаюць, аб якім праве ідзе гаворка ў дадзеным роліку і запісваюць адказ на аркушы групавых адказаў.

*II. Настаўнік* нагадвае навучэнцам аб тым, што Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека ратыфікавана Рэспублікай Беларусь, і прапаноўвае навучэнцам знайсці ў тэксце Канстытуцыі РБ тыя артыкулы, у якіх зафіксаваныя запісаныя імі правы і адзначыць іх на аркушы групавых адказаў.

*Навучэнцы* выконваюць заданне, адзначаюць таксама, да якой групы можна аднесці кожнае з правоў (асабістай, палітычнай, сацыяльна-эканамічнай, сацыяльна-культурнай).

**5. Вывучэнне тэмы "Калі правы могуць быць абмежаваныя".**

*Настаўнік* прапаноўвае навучэнцам, працуючы з тэкстамі Канстытуцыі:

- вызначыць умовы, пры якіх правы чалавека могуць быць абмежаваныя,
- запісаць правы, якімі могуць карыстацца ў Рэспубліцы Беларусь толькі яе грамадзяне,
- пералічыць правы, якія не могуць быць абмежаваныя.

*Навучэнцы* адказваюць на пытанні на аркушах для групавых адказаў.

**6. Замацаванне вывучанага матэрыялу.**

*Настаўнік* прапаноўвае навучэнцам адказаць на пытанні тэсту (Дататак 8).

*Навучэнцы:*

- адказваюць на пытанні на аркушы для групавых адказаў,
- здаюць аркушы для праверкі.

**7. Рэфлексія.**

*Настаўнік* прапаноўвае навучэнцам пасля абмеркавання ў групе адказаць на пытанні:

- Як бы вы сфармулявалі асноўную ідэю ўрока?
- Як вы ацэньваеце працу вашай групы?

**8. Хатняе заданне:**

• скласці табліцу "Канстытуцыйныя правы грамадзян Рэспублікі Беларусь", размеркаваўшы іх па групах;

• назваць канстытуцыйныя абавязкі грамадзяніна Рэспублікі Беларусь;

• раскрыць узаемасувязь правоў і абавязкаў;

• пры жаданні - падрыхтаваць паведамленне аб тым, якім чынам малады чалавек можа рэалізаваць альбо абараніць свае правы (абраць пэўнае права).

## 3.5. Сцэнар правядзення занятку на тэму "Сапраўдная прыгажосць"

***Сцэнар прадугледжвае выкарыстанне відэароліка "Несапраўдная прыгажосць".***

**Мэта:** разабрацца ў складніках паняцця "прыгажосць чалавека", паказаць, як СМІ могуць маніпуляваць свядомасцю людзей.

**Мэтавая група**: старэйшыя школьнікі, моладзь, 15-20 чалавек.

**Чаканыя вынікі:**

- фармаванне ўяўлення аб сапраўднай прыгажосці чалавечай асобы;
- фармаванне разумення таго, што вобразы, якія перадаюцца СМІ, часам выступаюць у якасці сродкаў маніпуляцыі свядомасцю людзей.

**Неабходны час:** 150 - 180 хвілін.

**Выкарыстаныя метады:** Метад "Калаж", метад "Валізка, Шуфлядка, Сметніца".

**Абсталяванне:** камп'ютэры з праграмай Adobe Photoshop, прынтэр з каляровым друкам, фотакамеры, святло (ліхтар), фон для фотаздымкаў, фотапапера, мультымедыйны праектар, глянцавыя часопісы, папера, нажніцы, клей, набор касметыкі, стыкеры розных колераў, вялікія аркушы паперы з намаляванымі на іх валізкай, шуфлядай, сметніцай.

**Папярэдняя падрыхтоўка:** падзел удзельнікаў на групы для правядзення майстар-класа.

**План занятку:**

1. Мазгавы штурм на тэму "Ідэал прыгажосці" - 10 хв.
2. Ствараем калаж на тэму "Ідэал прыгажосці" – 30-40 хв.
3. Прагляд відэароліка "Несапраўдная прыгажосць" і яго абмеркаванне – 15 хв.
4. Майстар-клас "Стварэнне ідэальнага вобразу" - 60-70 хв.
5. Напісанне эсэ на тэму "У чым сутнасць сапраўднай прыгажосці чалавека?" і яго абмеркаванне - 25 хв.
6. Рэфлексія – 20 хв.

**Хада занятку:**

*Вядоўца абвяшчае тэму і мэты сустрэчы, знаёміць з планам правядзення.*

**1.** Вядоўца прапаноўвае правесці мазгавы штурм на тэму "Ідэал прыгажосці". З прапанаваных варыянтаў фармуецца групавое паняцце: **Ідэал прыгажосці – гэта...**

**2.** Вядоўца дзеліць ўдзельнікаў на 2 групы пры дапамозе якога-небудзь інтэрактыўнага метаду і прапануе, выкарыстоўваючы глянцавыя часопісы, стварыць калаж на тэму : "Ідэал прыгажосці", а затым прэзентаваць вынікі працы.

**3.** На трэцім этапе працы ўдзельнікі праглядаюць відэаролік "Несапраўдная прыгажосць" і абмяркоўваюць яго. Абмеркаванне можна пабудаваць паводле наступных пытанняў:

- *Якая галоўная ідэя роліка?*
- *Якую ролю ў "трансляцыі вобраза" граюць СМІ?*
- *Прывядзіце прыклады маніпуляцый СМІ свядомасцю людзей.*

**4.** Майстар-клас па стварэнні ідэальнага вобразу ўключае некалькі этапаў:

***1) Стварэнне мадэлі***

Папярэдне ўдзельнікі атрымалі хатняе заданне – падрыхтаваць вобраз мадэлі. Мяркуецца, што для канкрэтнай мадэлі будзе падрыхтавана прычоска і макіяж, якія будуць ствараца на майстар-класе.

Удзельнікі загаддзя ведаюць, у якіх групах яны будуць працаваць на дадзеным этапе і які вобраз яны павінны будуць атрымаць у выніку.

Пасля стварэння мадэлі ўдзельнікі пераходзяць да фотасесіі.

***2) Фотасесія***

У якасці фатографаў выступаюць самі ўдзельнікі, якія ўмеюць рабіць партрэтныя здымкі.

***3) Апрацоўка фотаздымкаў***

Для рэалізацыі дадзенага этапа ў кожнай групе павінен быць удзельнік, знаёмы з праграмай Adobe Photoshop. Група выбірае лепшы, на іх меркаванне, фотаздымак мадэлі і карэктуе яго на камп'ютэры, затым прэзентуе вынікі сваёй працы. Усім ахвотным можна раздрукаваць фотаздымкі.

**5.** На гэтым этапе разглядаецца важнае і складанае пытанне “У чым сутнасць сапраўднай прыгажосці чалавека?”. Вядоўца прапануе ўдзельнікам напісаць невялікае эсэ на дадзеную тэму памерам 4-5 сказаў, а пасля зачытаць яго. З прапанаваных адказаў фармуецца вобраз сапраўднай, на думку ўдзельнікаў, чалавечай прыгажосці.

**6.** Рэфлексію можна правесці ў любой інтэрактыўнай форме, напрыклад з дапамогай метаду “Валізка, Шуфляда, Сметніца”.

# 4. Выкарыстаныя метады

## 4.1 Мазгавы штурм

**"Мазгавы штурм"** — адзін з найбольш папулярных метадаў стымулявання творчай актыўнасці. Дазваляе знайсці рашэнне складаных праблем шляхам прымянення спецыяльных правілаў абмеркавання. Шырока выкарыстоўваецца для пошуку нетрадыцыйных рашэнняў самых разнастайных задач.

*Метад мазгавога штурму быў распрацаваны Алексам Озбарнам у 1953 г. Метад заснаваны на дапушчэнні, што адной з асноўных перашкод для нараджэння новых ідэяў з'яўляецца "боязь ацэнкі": людзі часта не выказваюць уголас цікавыя неардынарныя ідэі, бо засцерагаюцца скептычнага ці нават варожага стаўлення з боку іншых. Мэтай прымянення мазгавога штурму з'яўляецца выключэнне ацэнкавага кампаненту на пачатковых стадыях стварэння ідэяў. Класічная тэхніка мазгавога штурму, прапанаваная Озбарнам, палягае на двух асноўных прынцыпах – "адтэрміноўкі вынясення выраку ідэі" і "з колькасці нараджаецца якасць".*

**I Этап: Збор ідэяў.**
На гэтым этапе трэба прытрымлівацца некалькіх правілаў.

Крытыка выключаецца: на стадыі генерацыі ідэяў выказванне любой крытыкі на адрас аўтараў ідэяў (як сваіх, так і чужых) не дапускаецца.

Вітаецца свабодны палёт фантазіі: людзі павінны спрабаваць максімальна разняволіць сваю фантазію. Дазваляецца выказваць любыя, нават самыя абсурдныя ці фантастычныя ідэі. Не існуе ідэяў настолькі недарэчных ці непрактычных, каб іх нельга было выказаць.

Ідэяў мусіць быць шмат: кожнага ўдзельніка сесіі просяць падаць максімальна магчымую колькасць ідэяў.

**II Этап: Камбінаванне і дасканаленне прапанаваных ідэяў.** Удзельнікаў просяць развіваць ідэі, прапанаваныя іншымі, напрыклад камбінуючы элементы дзвюх ці трох прапанаваных ідэяў.

**II Этап: Выбар лепшага рашэння.**

Адбываецца з улікам экспертавых ацэнак.

Мазгавы штурм дае магчымасць аб'яднаць у працэсе пошуку рашэнняў вельмі розных людзей; а калі групе ўдаецца знайсці рашэнне, то яе ўдзельнікі робяцца сталымі прыхільнікамі яго рэалізацыі. У цяперашні час метад мазгавога штурму можа быць эфектыўна выкарыстаны арганізацыямі для паляпшэння якасці працы ў камандах.

### 4.2 Метад “Бумеранг”

***Прызначэнне метаду:***

Абмеркаваць некалькі пытанняў, развіць навыкі пазітыўнага ўзаемадзеяння паміж малымі групамі, прыцягнуць да ўдзелу ў працы ўсіх, паказаць шматстайнасць поглядаў на праблему ці пытанне.

***Парадак рэалізацыі метаду***

Вядоўца рыхтуе для кожнай групы па адным пытанні:

- Як зрабіць кар’еру ў школе?
- Як заваяваць любоў вучняў?
- Як усталяваць у класе дысцыпліну?
- Як зрабіць так, каб хапала часу?

Кожнай групе раздаюцца падрыхтаваныя аркушы паперы і даецца заданне. Вядоўца засяроджвае ўвагу ўдзельнікаў на колькасці часу, адведзенага для працы.

Удзельнікі абмяркоўваюць прапанаванае пытанне і запісваюць групавы адказ на вялікі аркуш. Па сканчэнні часу, адведзенага на абмеркаванне, вядоўца прапануе групам памяняцца аркушыкамі (пажадана, каб групы перадавалі аркушыкі па хадзе гадзіннікавай стрэлкі).

Выканаўшы гэтую аперацыю, кожная група атрымае аркуш з новым пытаннем і адказам папярэдняй групы. Вядоўца прапануе ўдзельнікам прачытаць і абмеркаваць напісанае папярэдняй групай, а потым дапоўніць адказ сваімі развагамі.

Скончыўшы працу, групы зноў перадаюць аркушы. Так можна працягваць, пакуль аркуш не вернецца да той групы, якая пачынала працу з ім. Калі ўсе малыя групы скончаць абмеркаванне пытанняў, вядоўца прапануе ўдзельнікам уважліва азнаёміцца з напісаным на аркушы тэкстам, абмеркаваць яго, выказаць сваю згоду ці нязгоду і знайсці адказы на пастаўленыя пытанні. Затым кожная група прэзентуе вынік працы, каментуе яго, адказвае на пытанні іншых групаў.

### 4.3. Метад "PRES"

***Прызначэнне метаду*** - дазваляе развіваць навыкі фармулявання свайго пункту гледжання, пазіцыі ў дыскусіі, вучыць аргументаваць сваю думку.

P – пункт гледжання

R - прычына

E – прыклад

S – вынік

*Удзельнікаў можна падзяліць на групы ці на пары. Яны атрымліваюць карткі з тэмамі дыскусіі для пабудовы ўласных аргументаў паводле метаду* **"PRES"**. *Тэмы фармулююцца ў залежнасці ад ўзросту, прафесійнай падрыхтоўкі ўдзельнікаў.*

### 4.4. Метад SWOT

***Метад SWOT*** *— метад аналізу ў стратэгічным планаванні, які грунтуецца на падзеле фактараў і з'яваў на чатыры катэгорыі:* ***S****trengths (Моцныя бакі),* ***W****eaknesses (Слабыя бакі),* ***O****pportunities (Магчымасці) і* ***T****hreats (Пагрозы).*




Падзяліўшы ўдзельнікаў на групы (скарыстайце які-небудзь інтэрактыўны метад), прапануйце кожнай групе папрацаваць над адной з катэгорый **SWOT – аналізу**, а затым прэзентаваць сваю працу.

### 4.5. Метад “Валізка, Шуфляда, Сметніца”

***Прызначэнне метаду:*** выкарыстоўваецца для падсумавання, рэфлексіі.

***Парадак рэалізацыі метаду:***

Вядоўца прымацоўвае да сцяны тры вялікія аркушы, на адным з якіх намаляваная валізка, на другім – шуфляда, на трэцім – сметніца.

Удзельнікі атрымліваюць па тры каляровыя стыкеры, на адным з якіх яны запісваюць адказы на пытанне “Што важнае вы возьмеце з сабой з сённяшняй сустрэчы?”, на другім – адказ на пытанне “Што было для вас некарысным?”, на трэцім – “Што патрабуе дадатковага абдумвання?”

Затым па жаданні ўдзельнікі падыходзяць да плакатаў, прыклейваюць да іх аркушыкі і коратка каментуюць.

Першы аркушык прымацоўваецца да аркуша з выявай валізкі, другі – з выявай сметніцы, трэці – з выявай шуфлядкі.

## 4.6. Калаж

*Тэхніка стварэння калажу шырока вядомая. Трохі намаганняў, і вы здзівіцеся з атрыманага выніку.*

Са старых часопісаў, кніг і газет можна стварыць новы твор мастацтва. Часткі старых малюнкаў выразаюць, групуюць, злучаюць нанава і падпісваюць. Адметная рыса калажу – стварэнне зусім новага твору з фрагментаў ілюстрацыяў і тэксту. Гэткі спосаб стварэння новых ілюстрацыяў належыць да класічнага метаду афармлення.

Стварэнне калажу дазваляе зангажаваць у працу ўсіх удзельнікаў. Малюнкі трэба адшукаць, выразаць, а пасля згрупаваць атрыманы матэрыял. У працэсе стварэння кіруюцца найперш ідэяй, але варыянты і змены магчымыя на кожным этапе канструявання калажу. Удзельнікі вучацца гэткім чынам выяўляць і ажыццяўляць не толькі свае настроі і пачуцці, але і ўзніклыя думкі, выказванні. Да таго ж, часта выкарыстоўваюцца элементы рэкламных пубікацыяў.

Тэхнікі фотамантажу і калажу ідэнтычныя. Але калі ў стварэнні фотамантажу мэта – адлюстраванне пэўнага кантэксту з дапамогай стылёвых сродкаў, дык калаж у гэтым плане больш асацыятыўны і арыгінальны. Але часам іх немагчыма адрозніць адно ад аднаго.

***Працэс стварэння:***

- Фармуюцца невялікія групы (максімум 5 чалавек).
- Фармулюецца заданне: "Адшукайце малюнкі і надпісы на тэму ... і зрабіце калаж".
- Праца групаў.
- Дэманстрацыя прац у выглядзе невялікай выставы. Прадстаўнік кожнай групы прэзентуе свой твор.
- Абмеркаванне калажаў. Увага засяроджваецца на выказваннях і сродках іх выяўлення (наўмысна ці ненаўмысна быў выкарыстаны той ці іншы сродак, што падкрэслівае істотнасць выказвання).

***Калажы могуць выяўляць:***

- Настрой
- Каментар на падзеі
- Кантраставыя змены
- Дадаткі і выпраўленні пэўных выказванняў
- Пытанні
- Адказы на пастаўленыя пытанні.

Тут няма межаў для фантазіі. Калажы можна складаць з загалоўкаў газет, выяваў палітыкаў, рэкламных публікацыяў.

***Калажы з аб'ектаў і музычных твораў***

Калажы неабавязкова могуць быць выраблены з друкаванай прадукцыі. Можна выкарыстоўваць прадметы, музыку, гутарку, тон, напрыклад:

- З асобных фраз адной гутаркі можна скласці іншую.
- Скласці мяшанку з музыкі ці песняў.
- Ператварыць у калаж праграмы палітычных партыяў, карыстаючыся толькі першымі і апошнімі сказамі.

***Матэрыялы***

Папера А2, нажніцы, клей, малюнкі, ілюстрацыі, часопісы і г.д.

***Час***

45-60 хвілін для працы. 30-40 хвілін для паказу і абмеркавання.

# 5. Дапаможныя і раздатныя матэрыялы

**Дадатак 1**

**Магандас Карамчанд Ґандзі** паходзіў з сям'і, якая належыць да гандлёвай варні вайш'яў, аднак яго бацька Карамчанд Ґандзі (1822-1885) займаў пасаду галоўнага міністра Порбандара. Дзеці ў сям'і Ґандзі выхоўваліся ў духу неўчынення шкоды жывым істотам, імкнення да самаачышчэння і памяркоўнасці да людзей іншай рэлігіі і касты. У 13 гадоў Магандас узяў шлюб са сваёй раўналеткай Кастурбай. У сужонцаў было чатыры сыны: Харылал (1888 - 1949), Манілал (1892 - 1956), Рамдас (1897 - 1969) і Дэўдас (1900 - 1957). Ад старэйшага сына Харылала бацька адмовіўся. З яго сведчання, той піў, распуснічаў і залазіў у пазыкі. Некалькі разоў Харылал змяняў рэлігію; памёр ад пранцаў. Усе астатнія сыны былі паслядоўнікамі бацькі і актывістамі яго руху за незалежнасць Індыі.

У 19 гадоў Магандас Ґандзі выправіўся ў Лондан, дзе атрымаў юрыдычную адукацыю. У 1891 г., па сканчэнні навучання, ён вярнуўся ў Індыю. Паколькі прафесійная дзейнасць на радзіме не прынесла Ґандзі асаблівага поспеху, ён у 1893 г. выправіўся працаваць у Паўднёвую Афрыку, дзе паступова прыйшоў да барацьбы за правы індыйцаў. Там ён упершыню скарыстаў у якасці сродку барацьбы негвалтоўны супраціў. Вялікі ўплыў на фармаванне пазіцый Магандаса Ґандзі аказала Бгаґавадґіта, а таксама ідэі Г. Д. Тора і Л. Талстога (з якім Ґандзі ліставаўся).

У 1914 г. М. К. Ґандзі вярнуўся ў Індыю, дзе актыўна далучыўся да руху за дасягненне незалежнасці краіны ад брытанскага каланіяльнага ўладарання. У 1915 г. Рабіндранат Таґор упершыню ўжыў адносна да Магандаса Ґандзі тытул "Магатма"- "вялікая душа" (прычым сам Ґандзі яго не прыняў, бо лічыў сябе нявартым).

У барацьбе за незалежнасць Індыі М. Ґандзі ўжываў метады негвалтоўнага супраціву: так, з яго ініцыятывы індыйцы пачалі байкот брытанскіх тавараў і ўстаноў.

Магатма Ґандзі меў велізарны ўплыў як сярод індусаў, так і сярод мусульман Індыі, імкнуўся пагадніць гэтыя варожыя групоўкі. Ён вельмі адмоўна паставіўся да падзелу былой калоніі Брытанская Індыя ў 1947 г. на свецкую рэспубліку Індыя з большасцю індуісцкага насельніцтва і мусульманскі Пакістан.

30 студзеня 1948 г. на набажэнстве ў Дэлі да яго падышоў фанатык-індус. Ён пакланіўся, выцягнуў схаваны пад адзеннем рэвальвер і тройчы стрэліў у жывот і грудзі Магатмы. Саслабелы Магатма, якога падтрымлівалі пляменніцы, ускрыкнуў: "О, Госпадзе! О, Госпадзе! О, Госпадзе!" (гэтыя словы напісаны на мемарыяле,

узведзеным на месцы стрэлу). Пасля ён паказаў жэстамі, што выбачае забойцу.

30 студзеня 2008 г., у 60-я ўгодкі з дня згубы Ґандзі, яго прах быў развеяны над морам на мысе Кэйп Камарын каля мястэчка Каньякумары.

**Дадатак 2**

**Сат'яґрага** – у Індыі ў перыяд англійскага каланіяльнага ўладарання тактыка негвалтоўнай барацьбы за незалежнасць у дзвюх формах: несупрацы і грамадзянскага непадпарадкавання.

Распрацавана Магатмам Ґандзі ў пачатку XX стагоддзя. Асноўная ідэя – у памкненні ўздзейнічаць на добрамысленне і сумленне суперніка праз:

адмову ад гвалту

гатовасць пераносіць боль і пакуты

Мэтай сат'яґрагі з'яўляецца ператварэнне суперніка ў саюзніка і сябра - лічыцца, што зварот да сумлення больш эфектыўны, чым пагрозы і гвалт. У адпаведнасці з тэорыяй Ґандзі, гвалт рана ці позна прыводзіць да павелічэння гвалту, нягвалт жа перарывае спіраль зла і дае магчымасць ператварыць ворага ў аднадумца. Ґандзі разглядае сат'яґрагу не як зброю слабых, а, наадварот, як зброю мацнейшых духам.

З гэтага часу ў Індыі ніхто не купляе англійскіх тавараў, індыйцы сыходзяць з англійскіх кампаній і адмаўляюцца супрацоўнічаць з уладамі. Сам Ґандзі вяртае ўладам медалі, якія атрымаў у англа-бурскай вайне ў Паўднёвай Афрыцы і якія вельмі шанаваў (у 1899 г. Ґандзі ўдзельнічаў у вайне на баку англічан, аказваў медычную дапамогу параненым жаўнерам ды афіцэрам, выцягваючы іх з-пад куляў на сваіх плячах).

Знакам новай сат'яґрагі робіцца чаркха, традыцыйны індыйскі калаўрот.

На заклік Магатмы ўся краіна пераходзіць на самазабеспячэнне, адмаўляючыся купляць англійскія тавары, у тым ліку і дарагія тканіны. Магатма сам сядае за калаўрот і вырабляе сабе адзенне і абутак. Індыйцы не парушаюць законаў, яны проста не супрацоўнічаюць з уладай. Яны купляюць толькі індыйскія тавары (хай тыя горшай якасці!), спальваюць англійскія тканіны, якія некалі купілі.

Для цэлай нацыі гэта стала духоўным прарывам, унутраным адкрыццём. Выяўляецца, іх палітычная і эканамічная залежнасць ад Англіі - вынік іх супрацы з каланізатарамі!

Але можна ж і не супрацоўнічаць, можна жыць сваім жыццём і не заўважаць ворагаў!

Спачатку англічане абсыпаюць Ґандзі кпінамі, але неўзабаве пачынаюць спытваць шок – іх ігнаруюць, іх традыцыі не шануюць, іх гандлёвыя кампаніі нясуць каласальныя страты. Даходзіць да таго, што індусы не заўважаюць спадчыннага прынца Валійскага, які прыязджае ў

Індыю. Вуліцы гарадоў вымiраюць, калі там паказваецца высокі госць, увасабленне святой каралеўскай улады.

Сат’яґрага - гэта доўгі шлях, і Ґандзі не гоніцца за вынікам. Апошнюю сат’яґрагу, якая была адзначана "саляным паходам", Ґандзі праводзіць у 1930 г. А незалежнасць Індыя заваюе толькі ў 1947 г.

Паводле Ґандзі, сат’яґрага - сродак для практычнага і свядомага парушэння несправядлівых законаў: "Трымацца праўды, сілы праўды, сілы любові, сілы душы" і далей: "Трыумф праўды, перамога праўды, перамога праўды сіламі душы і любові".

**Пасіўны супраціў**

Сат’яґрага абмежавала паняцце "пасіўны супраціў", якое Ґандзі лічыў зброяй слабых. Пасіўны супраціў пазбягаў гвалту толькі праз нястачу зброі, але ў прынцыпе не адмаўляўся ад ужывання гвалту.

Грамадзянскае непадпарадкаванне мае на ўвазе свядомае парушэнне законаў, супярэчных маралі, асабліва - адмову плаціць падаткі. Негвалтоўным чынам выклікаецца пакаранне (арышт, зняволенне) за парушэнне несправядлівага закону і пасля цярпліва пераносіцца. Пры парушэнні законаў варта выяўляць суцэльныя ветлівасць і прыязнасць у дачыненні да абаронцаў правапарадку, імкнуцца ніяк іх не правакаваць.

**Несупраца**

Азначае адмову ад усялякіх пагадненняў і кантактаў з несправядлівай кіруючай сістэмай. Робіць непатрэбным "Грамадзянскае непадпарадкаванне" ў апісаным вышэй сэнсе, таму гэта больш бяспечны спосаб барацьбы для простых людзей.

Несупраца ажыццяўляецца не з самімі супернікамі, а з іх нягоднымі дзеяннямі. Прыхільнікі сат’яґрагі могуць супрацоўнічаць з урадавымі службоўцамі там, дзе яны бачаць магчымасць пазітыўнага развіцця, бо яны не маюць нянавісці да прадстаўнікоў улады. Наадварот, яны настроены прыязна да сваіх супернікаў. Праз супрацу з імі ў тым, што не з'яўляецца нягодным, прыхільнікі сат’яґрагі імкнуцца схіліць суперніка да адмовы ад кепскіх, нягодных учынкаў. Барацьбіт сат’яґрагі валодае неабмежаванай здольнасцю цярпець пакуты без жадання адпомсціць за іх.

Формы несупрацы, якія Ґандзі, аднак, раіў ужываць асцярожна, бо яны маглі выклікаць гнеў і рэпрэсіі з боку ўрада:

1) Адмова ад тытулаў, званняў і ўзнагарод, дадзеных урадам;

2) Сыход з дзяржаўнай службы;

3) Сыход з паліцыі і войскаў;

4) Байкот судоў, школ і адміністрацыйных установ са стварэннем у той самы час альтэрнатыўных структур, каб падтрымаць функцыянаванне грамадскага жыцця;

5) Адмова ад набыцця і выкарыстання англійскіх тавараў, у першую чаргу - тэкстыльнай прадукцыі.

Далей, пасля выканання гэтых умоваў, меркаваўся пераход да адмовы насельніцтвам плаціць падаткі. Гэта, па сутнасці, стаіць па-за рамкамі руху несупрацы. Немагчымасць чыніць непадпарадкаванне падатковаму заканадаўству на ранніх стадыях руху Ґандзі тлумачыў негатовасцю мас. "Я сцвярджаю, - казаў Ґандзі ў снежні 1920 г., - што народныя масы не гатовыя да спынення выплаты падаткаў. Яны яшчэ не маюць дастатковага самакантролю. Калі б я мог быць упэўненым у нягвалце з іх боку, я сёння ж папрасіў бы іх спыніць выплаты і не марнаваў бы вольныя моманты народнага часу."

З уяўленняў Ґандзі, "сапраўдны" прыхільнік сат'яґрагі мусіць быць калі не ідэальнай асобай, то прынамсі, набліжацца да яе:

**Прысяга**

Даць прысягу, паводле Ґандзі, прыкмета сілы, а не слабасці. Паводле яго вызначэння, прысяга гэта: любым коштам рабіць тое, што павінна быць зроблена. Той, хто кажа, што зрабіў бы нешта "наколькі магчыма", выяўляе тым самым, паводле перакананняў Ґандзі, сваю слабасць. Рабіць "наколькі магчыма" азначае паддацца першай спакусе. Нельга трымацца праўды "наколькі магчыма".

Сат'яґрага-прыхільнік дае наступныя прысягі, якія з'яўляюцца падмуркам развіцця яго духоўнай сілы:

**Першыя прысягі**

Праўда

Нягвалт ці любоў

Цнота

Адмова ад уласнасці

**Астатнія прысягі**

Мужнасць, адвага

Памяркоўнасць у ежы

Не красці

Неабходная праца

Роўнасць рэлігій

Анты-недатыкальнасць

Самадысцыпліна

**Дадатак 3**

*“У сучасным свеце нягвалт з’яўляецца магутным сродкам сацыяльнага пратэсту. Негвалтоўны супраціў мае мэтай дасягненне сацыяльных пераменаў у грамадстве без ужывання гвалту. Такім чынам, негвалтоўны супраціў супрацьлеглы адначасова і пасіўнаму прыманню сацыяльнай несправядлівасці, прыгнёту, і ўзброенай барацьбе з імі”.*

**Дадатак 4**

**Падыходы да нягвалту**

Нягвалт можа выяўляцца як прынцыповае рэлігійнае, этычнае, філасофскае перакананне і як прагматычная палітычная стратэгія.

**Нягвалт у рэлігіі**

У хрысціянстве ідэі нягвалту былі сфармуляваныя ў Нагорнай казані. Адной з абвешчаных у казані запаведзяў было: "Калі хто цябе ўдарыць па правай шчацэ тваёй, падстаў яму і другую" (Мц., 5, 38).

У будызме ды індуізме паняцце нягвалту ўзыходзіць да ідэі агімса, што азначае "неўчыненне шкоды жывым істотам", супрацьлегласці гвалту. Услед за Магатмам Ґандзі паняцце агімса як сінонім нягвалту зацвердзілася ў сучаснай еўрапейскай культуры.

Аднак паняцце агімса прыглушвала актыўны, дзейны аспект нягвалту, як яго разумеў М. Ґандзі, і ён пасля распрацаваў новае ў індыйскай філасофіі паняцце "сат'яґрага", каб выказаць свае погляды на нягвалт.

**Нягвалт у палітыцы**

Як спосаб грамадзянскага ўздзеяння на грамадства і ўладу, як стратэгія барацьбы, якая вядзе да сацыяльных пераўтварэнняў, нягвалт быў ажыццёўлены Магатмам Ґандзі ў працяглай барацьбе супраць англійскага панавання ў Індыі. Пазней Марцін Лютэр Кінг адаптаваў і прапагандаваў філасофію і метады Ґандзі для негвалтоўнай барацьбы за грамадзянскія правы чорных у ЗША.

Прыхільнікі стратэгіі нягвалту лічаць, што ў аснове любой улады ляжаць супраца і паслушэнства грамадзянаў, і гэта справядліва для любых палітычных рэжымаў і арганізацыяў, будзь яны бюракратычныя альбо мілітарызаваныя. З прычыны гэтага, стратэгія нягвалту ў маштабах грамадства нацэленая на памяншэнне ўлады валадароў за кошт памяншэння супрацы грамадзянаў з імі і дэлегітымізацыі ўлады праз адкрытае выказванне нязгоды.

Нягвалт часта злучаецца з пацыфізмам і часам выкарыстоўваецца як яго сінонім. Тым не менш, гэтыя канцэпцыі прыкметна адрозніваюцца. Пацыфізм канцэнтруецца на пытаннях міждзяржаўнага гвалту (вайны), але не абавязкова мае на ўвазе рух да сацыяльных альбо палітычных пераменаў. Нягвалт як філасофія сацыяльнага пратэсту мае на ўвазе сацыяльную альбо палітычную мэту, для дасягнення якой і вылучаецца ідэя нягвалту. Акрамя таго, нягвалт, як стратэгія і прылада сацыяльнага пратэсту ў пэўнай галіне, можа спалучацца з ужываннем гвалту ў іншых галінах.

**Дадатак 5**

**Метады негвалтоўнага пратэсту і пераканання**

**Афіцыйныя заявы**

1. Публічныя выступы

2. Лісты пратэсту альбо падтрымкі

3. Дэкларацыі арганізацыяў і ўстановаў

4. Публічныя заявы, падпісаныя вядомымі людзьмі

5. Дэкларацыі абвінавачання і намераў

6. Групавыя альбо масавыя петыцыі

**Сумоўе з шырокай аўдыторыяй**

7. Лозунгі, карыкатуры і сімвалы

8. Сцягі, плакаты і наглядныя сродкі

9. Улёткі, памфлеты і кнігі

10. Газеты і часопісы

11. Аўдыёзапісы, радыё, ТБ

12. Надпісы ў паветры (самалётамі) і на зямлі (узворваннем глебы, пасадкай раслінаў, камянямі)

**Групавыя акцыі**

13. Дэпутацыі

14. Сатырычныя ўзнагароджанні

15. Групавое лобі

16. Пікетаванне

17. Псеўда-выбары

**Сімвалічныя грамадскія акцыі**

18. Вывешванне сцягоў, выкарыстанне прадметаў сімвалічных колераў

19. Нашэнне сімвалаў

20. Малітвы і набажэнствы

21. Перадача сімвалічных аб'ектаў
22. Распрананне на знак пратэсту
23. Знішчэнне сваёй уласнасці
24. Сімвалічнае запальванне агнёў (паходні, ліхтары, свечкі)
25. Выстаўленне партрэтаў
26. Маляванне на знак пратэсту
27. Усталяванне новых вулічных знакаў і назваў
28. Сімвалічныя гукі
29. Сімвалічнае "засваенне" земляў
30. Грубыя жэсты

**Ціск на асобных людзей**

31. "Перaслед па пятах" афіцыйных асобаў
32. Насмешкі з афіцыйных асобаў
33. Братанне з салдатамі
34. Пільнаванні ("вахты")

**Тэатр і музыка**

35. Гумарыстычныя пароды
36. Пастаноўка п'есаў і музычных твораў
37. Спевы

**Працэсіі**

38. Маршы
39. Парады
40. Рэлігійныя працэсіі
41. Паломніцтва
42. Аўтакалоны

**Памінанне памерлых**

43. Палітычная жалоба
44. Сімвалічныя пахаванні

45. Дэманстратыўныя пахаванні

46. Пакланенне ў месцах пахавання

**Грамадскія сходы**

47. Сход пратэсту альбо падтрымкі

48. Мітынгі пратэсту

49. Таемныя мітынгі пратэсту

50. Семінары

**Сыход і адмова**

51. Дэманстрацыйны сыход

52. Маўчанне

53. Адмова ад уганаравання

54. Адварочванне спінай

## Метады адмовы ад сацыяльнай супрацы

**Астракізм асобных людзей**

55. Сацыяльны байкот

56. Выбарачны сацыяльны байкот

57. Адмова ад выканання шлюбных абавязкаў

58. Адмова ад зносінаў

59. Спыненне рэлігійнай службы

**Адмова ад удзелу ў грамадскіх падзеях, звычаях і працы**

60. Спыненне сацыяльнай і спартовай дзейнасці

61. Байкот грамадскіх падзеяў

62. Студэнцкія страйкі

63. Грамадскае непадпарадкаванне

64. Прыпыненне ўдзелу ў грамадскіх арганізацыях

**Самаўхіленне ад сацыяльнай сістэмы**

65. Адмова выходзіць з дому

66. Поўная асабістая адмова ад супрацы

67. Уцёкі працоўных

68. Хаванне ў сховішчы

69. Калектыўны сыход з месца жыхарства

70. Эміграцыя на знак пратэсту (араб. "гіджрат")

**Метады адмовы ад эканамічнай супрацы:**

**(1) Эканамічныя байкоты**

**Акцыі спажыўцоў**

71. Байкот спажыўцоў

72. Невыкарыстанне байкатаваных тавараў

73. Палітыка аскетызму

74. Адмова плаціць арэндную плату

75. Адмова арандаваць

76. Агульнанацыянальны спажывецкі байкот

77. Міжнародны спажывецкі байкот

**Акцыі працоўных і вытворцаў**

78. Байкот працоўных

79. Байкот вытворцаў

**Акцыі пасярэднікаў**

80. Байкот дастаўцамі ды пасярэднікамі

**Акцыі ўладальнікаў і кіраўнікоў**

81. Байкот гандлярамі

82. Адмова здаваць у арэнду альбо прадаваць уласнасць

83. Лакаўт (спыненне вытворчасці ўладальнікам)

84. Адмова ў прамысловай дапамозе

85. Усеагульны страйк гандляроў

**Акцыі трымальнікаў фінансавых рэсурсаў**

86. Зняццё банкаўскіх укладаў

87. Адмова плаціць ганарары, выплаты, сумы абкладання

88. Адмова выплачваць пазыкі альбо адсоткі

89. Узмацненне жорсткасці фондаў і крэдытаў

90. Адмова плаціць падаткі

91. Адмова ад "шэрага" заробку

**Дзеянні ўрадаў**

92. Унутранае эмбарга

93. "Чорныя спісы" гандляроў

94. Міжнароднае эмбарга дастаўцаў

95. Міжнароднае эмбарга пакупнікоў

96. Міжнароднае гандлёвае эмбарга

**Метады адмовы ад сімвалічнай супрацы:**

**(2) Страйк**

**Сімвалічныя страйкі**

97. Страйкі пратэсту

98. Хуткі сыход ("страйк-маланка")

**Сельскагаспадарчыя страйкі**

99. Сялянскія страйкі

100. Страйкі сельскагаспадарчых працоўных

**Страйкі адмысловых групаў**

101. Адмова ад прымусовай працы

102. Страйкі зняволеных

103. Страйкі рамеснікаў
104. Прафесійныя страйкі

**Звычайныя прамысловыя страйкі**

105. Страйк істэблішмэнту
106. Прамысловыя страйкі
107. Страйк салідарнасці

**Абмежаваныя страйкі**

108. Частковы страйк
109. "Бамперны" (выбарачны, пачарговы) страйк
110. Зніжэнне тэмпаў працы
111. Праца "строга паводле інструкцыі"
112. Нявыхад "з прычыны хваробы"
113. Страйк праз звальненне
114. Абмежаваны страйк
115. Выбарчы страйк

**Шматгаліновыя страйкі**

116. Пашыральны страйк
117. Усеагульны страйк

**Спалучэнне страйкаў і эканамічнага закрыцця прадпрыемстваў**

118. Спыненне працы і гандлю (гіндзі "гартал")
119. Спыненне ўсёй эканамічнай дзейнасці

## Метады адмовы ад палітычнай супрацы

**Адмова падтрымліваць улады**

120. Адмова ад лаяльнасці ўладам
121. Адмова ў грамадскай падтрымцы
122. Літаратура і прамовы, якія заклікаюць да супраціву

**Адмова грамадзянаў супрацоўнічаць з урадам**

123. Байкот заканадаўчых органаў

124. Байкот выбараў

125. Байкот працы ў дзяржаўных установах і займання дзяржаўных пасадаў

126. Байкот урадавых установаў, агенцтваў і іншых органаў

127. Сыход з урадавых адукацыйных установаў

128. Байкот арганізацыяў, якія падтрымоўвае ўрад

129. Адмова дапамагаць сілам навядзення парадку

130. Здыманне знакаў уласнасці і вулічнай разметкі

131. Адмова прыняць прызначэнне афіцыйных асобаў

132. Адмова распусціць наяўныя інстытуты

**Альтэрнатыва грамадзянскаму падпарадкаванню**

133. Неахвотнае і павольнае падпарадкаванне

134. Непадпарадкаванне пры адсутнасці найпростага нагляду

135. Народнае непадпарадкаванне

136. Замаскаванае непадпарадкаванне

137. Невыкананне загаду разысціся сходу альбо мітынгу

138. Сядзячы страйк

139. Адмова ад прызыву ў войска і дэпартацыі

140. Хаванне, уцёкі і выраб фальшывых дакументаў

141. Грамадзянскае непадпарадкаванне "несправядлівым" законам

**Акцыі ўрадавага персаналу**

142. Выбарачная адмова дапамагаць прадстаўнікам ураду

143. Блакаванне перадачы камандаў і інфармацыі

144. Затрымкі і перашкоды для працы ўстановаў

145. Агульная адмова ад адміністрацыйнай супрацы

146. Адмова ад судовай супрацы

147. Наўмысная неэфектыўнасць працы і выбарачная адмова ад супрацы з выканаўчымі органамі

148. Мяцеж

**Унутраныя акцыі ўраду**

149. Псеўда-легальныя хітрыкі і затрымкі

150. Адмова ад супрацы з дробнымі ўрадавымі органамі

**Міжнародныя акцыі ўраду**

151. Змены ў дыпламатычных ды іншых прадстаўніцтвах

152. Затрымка і адмена дыпламатычных мерапрыемстваў

153. Устрыманне ад дыпламатычнага прызнання

154. Пагаршэнне дыпламатычных дачыненняў

155. Сыход з міжнародных арганізацыяў

156. Адмова ад удзелу ў міжнародных арганізацыях

157. Выключэнне з міжнародных арганізацыяў

## Метады негвалтоўнага ўмяшання

**Псіхалагічнае ўмяшанне**

158. Самааддача ва ўладу стыхіі (самаспаленне, утапленне і г.д.)

159. Галадоўка

а) галадоўка маральнага ціску

б) галодны страйк

в) галадоўка ў духу "сат'яґрага"

160. "Зваротны" суд (выкарыстанне падсудным суду для абвінавачання абвінаваўцаў)

161. Негвалтоўнае псіхалагічнае знясіленне апанента

**Фізічнае ўмяшанне**

162. Сядзенне

163. Стаянне

164. Нявыхад з транспарту

165. Выкарыстанне сегрэгаваных пляжаў пры расавай сегрэгацыі

166. Хаджэнне на месцы

167. Маленне ў сегрэгаваных цэрквах

168. Негвалтоўныя маршы з патрабаваннем перадачы ўласнасці

169. Негвалтоўныя паветраныя палёты ў зону, кантраляваную апанентам

170. Негвалтоўны ўваход у забароненую зону (перасячэнне рысы)

171. Негвалтоўная перашкода гвалту альбо іншым дзеянням апанента ўласным целам (псіхалагічнае ўздзеянне)

172. Негвалтоўнае блакаванне ўласным целам (фізічнае ўздзеянне)

173. Негвалтоўная акупацыя

**Сацыяльнае ўмяшанне**

174. Усталяванне новых сацыяльных парадкаў

175. Перагрузка памяшканняў

176. Блакаванне дарогаў

177. Бясконцае прамаўленне прамоваў

178. Самадзейныя паказы на вуліцы

179. Альтэрнатыўныя сацыяльныя інстытуты

180. Альтэрнатыўныя сістэмы камунікацыяў

**Эканамічнае ўмяшанне**

181. Зваротны страйк

182. Нявыхад пасля сканчэння працы

183. Негвалтоўны захоп зямлі

184. Адмова ад выканання блакады

185. Палітычна матываваны выраб фальшывых грошай

186. Папераджальныя масавыя закупы стратэгічна важных тавараў

187. Захоп каштоўнасцяў

188. Дэмпінг

189. Выбарачны патранаж фірмаў, установаў

190. Альтэрнатыўныя рынкі

191. Альтэрнатыўныя транспартныя сістэмы

192. Альтэрнатыўныя эканамічныя інстытуты

**Палітычнае ўмяшанне**

193. Празмерная загрузка адміністрацыйнай сістэмы

194. Выкрыццё сакрэтных агентаў

195. Імкненне да зняволення ў турме

196. Грамадзянскае непадпарадкаванне “нейтральным законам”

197. Праца без супрацы

198. Падвойны суверэнітэт і стварэнне паралельнага ўраду

**Дадатак 6**

## ФІЛАСОФІЯ НЯГВАЛТУ: ШЭСЦЬ ПРЫНЦЫПАЎ

### З кнігі "Шлях да свабоды" Марціна Лютэра Кінга, 1958

Пакольні філасофія нягвалту адыграла важную ролю..., было б карысна асвятліць прынамсі сцісла найважнейшыя палажэнні гэтай канцэпцыі.

**Першае:** трэба падкрэсліць, што палітыка нягвалту - гэта не шлях баязліўцаў, гэта супраціў. Калі хтосьці выкарыстоўвае гэты метад толькі таму, што баіцца альбо не мае магчымасці звярнуцца да гвалту, гэта яшчэ не ёсць сапраўдны нягвалт. Не выпадкова Ґандзі гаварыў, што калі баязлівасць - адзіная альтэрнатыва гвалту, то лепш біцца. Сцвярджаючы так, Ґандзі разумеў, што ёсць і іншая альтэрнатыва: ніводны чалавек альбо група людзей не павінны паступаць несумленна, не павінны звяртацца да гвалту нават дзеля добрай справы, бо заўсёды існуе шлях нягвалту.

Урэшце рэшт, гэта шлях моцных людзей. Гэта не шлях бяздзейнай пасіўнасці. Фразу "пасіўны супраціў" часта няслушна тлумачаць, разумеючы пад гэтым метад "поўнай бяздзейнасці", калі чалавек ціха і спакойна мірыцца са злом. Аднак нішто не стаіць так далёка ад праўды, як гэтае сцверджанне. Прыхільнік негвалтоўнага супраціву пасіўны толькі ў тым сэнсе, што ён не ўжывае фізічнага гвалту да сваіх праціўнікаў, але ягоныя розум і эмоцыі актыўныя, бо ён безупынна шукае шляхі ўпэўніць праціўніка, што той паступае няслушна. І хаця ў гэтым метадзе няма актыўнасці фізічнай, затое ёсць велізарная духоўная актыўнасць. Гэта не пасіўны несупраціў злу, гэта актыўны, але негвалтоўны супраціў злу.

**Другое,** чым характарызуецца палітыка нягвалту, - гэта адсутнасць знявагі супрацьлеглага боку; мэта не ў тым, каб знішчыць праціўніка, а ў тым, каб заваяваць яго любоў і разуменне. Прыхільнікі гэтай палітыкі могуць выяўляць свой пратэст байкотам ці адмовай ад супрацы, але самі гэтыя дзеянні не ёсць самамэта, яны закліканыя абудзіць пачуццё сораму ў няправага боку. Сапраўднай жа мэтай ёсць адкупленне і прымірэнне. Канчатковая мэта нягвалту – стварыць годнае грамадства, тады як гвалт можа спарадзіць толькі трагедыі і горыч.

**Трэцяя** рыса гэтай палітыкі ў тым, што дзеянні скіраваныя супраць саміх сілаў зла, а не супраць пэўных людзей, якія аказаліся яго носьбітамі. Нягвалт змагаецца са злом, а не з тымі, хто стаў яго ахвярамі. Калі прыхільнік нягвалту выступае супраць расавай несправядлівасці, ён бачыць, што сутнасць праблемы не ў адрозненні расаў. Мне хочацца сказаць жыхарам Мантгомэры: "Карані вашага

канфлікту - не ў сутыкненні людзей з розным колерам скуры. У аснове канфлікту – барацьба справядлівасці з несправядлівасцю, барацьба сілаў святла з сіламі цемры. І калі вам удасца дамагчыся перамогі, то гэта будзе не толькі перамога 50 тысячаў неграў, гэта будзе перамога сілаў справядлівасці і святла. Нашая мэта - знішчыць несправядлівасць, а не тых белых, якія могуць выступаць як яе носьбіты".

**Чацвёртая** характэрная рыса гэтай палітыкі - гатовасць прыняць пакуты, не думаючы аб адплаце, і гатовасць прымаць удары, не адказваючы ўдарам на ўдар. Ґандзі неяк сказаў сваім суайчыннікам: "Магчыма, пральюцца рэкі крыві, перш чым мы даможамся свабоды, але гэта павінна быць нашая кроў". Прыхільнік негвалтоўнага супраціву прымае гвалт, калі так складаюцца акалічнасці, але ніколі не спараджае яго. Ён не ўхіляецца ад турмы. І калі турэмнае зняволенне непазбежнае, ён прымае яго "з радасцю жаніха, які ўваходзіць у спальню нявесты".

Вы можаце спытаць: "Што дазваляе нам апраўдаць тыя цяжкія выпрабаванні, да якіх мы заклікаем людзей, у чым сутнасць масавага ўжывання старажытнага прынцыпу «падстаў другую шчаку»"? Адказ у тым, што незаслужаная пакута ёсць адкупленнем. Мы выдатна ўсведамляем, што пакута нясе ў сабе вялізны "выхаваўчы і пераўтваральны патэнцыял". Ґандзі пісаў: "Найважнейшае ў жыцці дасягаецца не толькі шляхам разумнага сэнсу, але і купляецца коштам пакутаў". І далей: "Пакута значна больш дзейсны сродак, чым закон джунгляў, для таго каб змяніць праціўніка, прымусіць яго прыслухацца да голасу разумнага сэнсу".

**Пятае**, што паказальна для гэтай палітыкі, - яна выключае не толькі ўсялякі вонкавы фізічны гвалт, але і ўнутраны гвалт над духам чалавека. Прыхільнік нягвалту не толькі адмаўляецца забіваць свайго праціўніка, ён адмаўляецца яго і ненавідзець. Кутнім камянём гэтай палітыкі ёсць любоў.

У сэрцах, якія змагаюцца за чалавечую годнасць, не павінна быць месца горычы і нянавісці. Адказваючы падобным на падобнае, мы толькі павялічваем нянавісць. Камусьці павінна хапіць мудрасці і маральнасці, каб перапыніць ланцуг нянавісці. Гэта можна зрабіць, калі галоўным нашым рухавіком стане любоў.

Кажучы пра любоў, мы не маем на ўвазе сентыментальную і далікатную прывязанасць. Было б недарэчна чакаць ад прыгнечаных, што яны будуць пяшчотна любіць сваіх прыгнятальнікаў. Мы маем на ўвазе любоў як разуменне, добрую волю да адкуплення. Тут нам на дапамогу прыходзіць грэцкая мова. У ім тры розныя словы, якія пазначаюць любоў.

“Эрас” у вучэнні Платона вызначаецца як імкненне душы ў боскае царства. У нашыя дні гэтым словам абазначаюць эстэтычнае і рамантычнае каханне.

Затым “філія” - душэўная блізкасць паміж сябрамі. Гэта ўзаемная прывязанасць, калі чалавек любіць таму, што сам любы.

Калі мы кажам пра любоў да нашых прыгнятальнікаў, мы не маем на ўвазе “эрас” альбо “філію”; мы маем на ўвазе трэці тып любові, які грэкі звалі “агапэ”. Агапэ азначае разуменне, добрую волю да ўсіх людзей, гатовасць да адкуплення. Гэта любоў усеабдымная, бескарыслівая і творчая. Яна не залежыць ад учынкаў таго, на каго скіраваная. Гэта Божая любоў у чалавечым сэрцы.

Агапэ - любоў бескарыслівая. Гэта такі від любові, калі чалавек імкнецца рабіць дабро не для сябе, а для іншых. Агапэ не падзяляе людзей на добрых і дрэнных, патрэбных і непатрэбных, для яе неістотныя асабістыя якасці чалавека. Гэта любоў да людзей дзеля іх саміх, любоў да бліжняга ў найвышэйшай сваёй праяве, дзе кожны чалавек “бліжні” нам. Таму агапэ не падзяляе людзей на сяброў і ворагаў: яна скіраваная на ўсіх. Калі чалавек любіць сябра за тое, што той да яго добра ставіцца, значыць, ён любіць не яго самога, а тыя выгоды, якія тое сяброўства можа даць. Адпаведна, найлепшы спосаб упэўніцца, што вашая любоў бескарыслівая, - любіць чалавека, ад якога вы не толькі не можаце чакаць падзякі, але, наадварот, толькі варожасці і злосці.

Іншы ключавы момант гэтай любові ў тым, што чалавек імкнецца стаць як мага лепшым і больш дасканалым. Самарыцянін, які дапамог габрэю, быў “добры”, менавіта таму і адгукнуўся на чужую патрэбу. Боская любоў вечная, яна ніколі не выснажыцца менавіта таму, што чалавеку патрэбная такая любоў. Святы Павел сцвярджае, што акт адкупленчай любові здзейсніўся “яшчэ тады, калі ўсе мы былі грэшнікамі”, - гэта пра нашую каласальную патрэбу ў такой любові.

Паколькі душа белага чалавека скажоная няправільнымі ўяўленнямі, яму патрэбная любоў негра. Негры павінны любіць белых, бо белым патрэбная іхная любоў, толькі яна дапаможа ім пазбыцца напругі і страхаў.

Агапэ - зусім не слабая бяздзейная любоў. Гэта любоў актыўная. Агапэ – любоў, пакліканая стварыць і захаваць чалавечую супольнасць. Гэта любоў, гатовая ахвяраваць многім, каб захаваць гэтую супольнасць. Яна не спыняецца на паўдарозе, яна ідзе далей дзеля захавання супольнасці. Гэта гатовасць прабачыць не сем разоў, а семдзесят на сем разоў дзеля захаванні гэтай супольнасці. Пан Бог узышоў на крыж, каб аб'яднаць людзей. Уваскрэсенне сімвалізуе ягоную перамогу над сіламі, якія спрабуюць раз'яднаць людзей. Святы дух – сіла, якая надалей гуртуе людзей цягам стагоддзяў. Той, хто спрабуе

раз'яднаць людзей, паўстае супраць светабудовы. Таму, адказваючы нянавісцю на нянавісць, я толькі раз'ядноўваю людзей, у той час як адказваючы любоўю на нянавісць, я іх гуртую.

Адказваючы нянавісцю на нянавісць, я руйную сваю асобу, бо чалавек можа быць асобай толькі ў грамадстве. Брукер Т. Вашынгтон меў абсалютную рацыю, заклікаючы: "Не дазваляйце нікому апусціць вас да нянавісці". Ненавідзячы чалавека, вы працуеце супраць грамадства, кідаеце выклік светабудове і тым самым руйнуеце ўласную асобу.

І апошняе. Агапэ - гэтае і прызнанне таго, што ўсё ў жыцці ўзаемазвязанае. Усе мы - дзеці адзінага гістарычнага працэсу, і ўсе мы - браты. Наносячы шкоду бліжняму свайму, як бы ён да нас ні ставіўся, мы наносім шкоду і сабе. Да прыкладу, белыя часта скарачаюць для неграў адукацыю, каб пазбавіць неграў іхных правоў, але паколькі ўсе людзі - браты, то, пазбаўляючы негрыцянскіх дзяцей права на адукацыю, яны тым самым наносяць шкоду і сабе. Дасягаецца адваротны вынік. Чаму так адбываецца? Таму што ўсе людзі браты. Наносячы шкоду мне, вы тым самым наносіце шкоду сабе.

Агапэ - той самы цэмент, які змацоўвае чалавечую супольнасць. Кіруючыся прынцыпам любові, я абараняю чалавечую супольнасць, выступаю супраць несправядлівасці, дапамагаю маім братам у іхнай патрэбе.

**Шостае** палажэнне палітыкі нягвалту заснаванае на ўпэўненасці, што сусветны парадак знаходзіцца на боку справядлівасці. З гэтага вынікае нашая ўпэўненасць у будучыні. Гэта, у сваю чаргу, дапамагае нам прыняць пакуты, не думаючы аб адплаце. Мы верым: мы не самотныя ў нашай барацьбе, за нас Усясвет. Сярод удзельнікаў руху ёсць людзі, якія з цяжкасцю могуць паверыць у Бога ў кожным з нас, але нават яны перакананыя, што існуе сусветная стваральная сіла. Неістотна, у якой форме яна існуе, будзь гэта падсвядомасць, безасабовы Брагман або Асоба з велізарнымі магчымасцямі і бязмежнай любоўю, але гэтая стваральная сіла ёсць, і яна пераўтварае разрозненыя элементы рэальнасці ў гарманічнае цэлае.

**Дадатак 7**

**ПРАФСАЮЗЫ** (Trade unions) - добраахвотныя прафесійныя аб'яднанні працаўнікоў, створаныя з мэтай абароны эканамічных інтарэсаў працаўнікоў (у першую чаргу паляпшэння ўмоваў працы і падвышэння запрацнай платы).

**Узнікненне прафсаюзнага руху.** Па меры фармавання капіталістычнага грамадства з'явіліся новыя асноўныя сацыяльна-эканамічныя класы - прадпрымальнікі (капіталісты) і наёмныя працаўнікі. Узаемаадносіны працаўнікоў і працадаўцаў першапачаткова спараджалі канфлікты.

Цалкам заканамерна, што ўпершыню прафсаюзы паўсталі ў гады прамысловай рэвалюцыі ў найбольш прамыслова развітай краіне свету - Англіі. Першыя асацыяцыі працоўных мелі строга лакальны характар і аб'ядноўвалі толькі высокакваліфікаваных працоўных найболей перадавых галін. Так, адным з самых першых англійскіх трэд-юніёнаў лічыцца створаны ў 1792 г. саюз прадзільшчыкаў Ланкашыра. Што тычыцца некваліфікаваных працоўных, то высокае беспрацоўе рабіла іх лёгка заменнымі, на першых парах яны ніяк не маглі супрацьстаяць самаўпраўнасці наймальнікаў, а таму заставаліся за межамі прафсаюзнага руху.

І прадпрымальнікі, і дзяржава, якая абараняе іх інтарэсы, першапачаткова праяўлялі непрыхільнасць да прафсаюзаў. Для барацьбы з імі ўводзіліся адмысловыя законы, якія забаранялі працоўныя саюзы і якія ўводзілі крымінальную адказнасць за членства ў “змоўніцкіх арганізацыях”.

У 1799-1800 у Англіі былі прынятыя заканадаўчыя акты, якія абвяшчалі працоўныя аб’яднанні пазапраўнымі і накладалі забарону на правядзенне дэманстрацый. Аднак гэтыя законы не змаглі суцішыць працоўных, а, наадварот, стымулявалі іх аб'ядноўвацца ў барацьбе за свае правы. Таму ўжо ў 1824 г. антыпрацоўнае заканадаўства ў Англіі адмянілі, адбылася фактычнае легалізацыя трэд-юніёнаў.

Станаўленне і развіццё прафсаюзнага руху ў розных краінах адбывалася ў цэлым паводле англійскіх узораў, але са спазненнем і рознымі тэмпамі.

**Функцыі прафсаюзаў.**

Сучасныя навукоўцы, якія займаюцца праблемамі прафсаюзаў, вылучаюць дзве іх асноўныя функцыі - ахоўную (узаемаадносіны “прафсаюз - прадпрымальнікі”) і прадстаўніцкую (узаемаадносіны “прафсаюз - дзяржава”). Некаторыя эканамісты дадаюць да гэтых дзвюх яшчэ і трэцюю функцыю, эканамічную - клопат аб падвышэнні эфектыўнасці вытворчасці.

**“Салідарнасць”** - аб'яднанне прафсаюзаў, створанае ў 1980 г. Лехам Валенсам на судаверфі імя Леніна ў Гданьску (Польшча). Перамога “Салідарнасці” на выбарах 1989 г. стала адным з фактараў, якія забяспечылі дэмантаж сацыялістычнага лагеру без значнага кровапраліцця.

У 1980-*х* гадах на хвалі эканамічных цяжкасцяў краіны “Салідарнасць” стала масавым антыкамуністычным грамадскім аб'яднаннем, якое сабрала самыя розныя палітычныя сілы - ад каталіцкіх клерыкалаў да лявацкіх груповак. Урад у перыяд дзеяння ўведзенага ў снежні 1981 г. вайсковага становішча жорстка распраўляўся з прафсаюзам і яго прыхільнікамі, падчас рэпрэсій загінула, з розных звестак, ад 15 да 20 чалавек. Тым не менш дамагчыся рашучай перамогі над апазіцыяй партыі і войску не атрымалася, і ў канцы васьмідзесятых гадоў кіраўніцтва краіны ва ўмовах распаду сацыялістычнага лагеру змушанае было пачаць перамовы з “Салідарнасцю” і іншымі групамі апазіцыі ў рамках комплекснага працэсу, вядомага пад назвай “Круглы стол”.

Вынікам гэтых перамоваў стала прызначэнне выбараў, якія адбыліся ў Польшчы ў 1989 г. Выбары былі па сутнасці дэмакратычныя, але з шэрагам спадарожных умоваў, якія забяспечвалі камуністычнай партыі перавагу ў парламенце. На выбарах “Салідарнасць” дамаглася нечаканых для кіруючага рэжыму поспехаў і да канца жніўня сфармавала ўрадавую кааліцыю. У снежні 1989 г. лідэр “Салідарнасці” Лех Валенса быў абраны прэзідэнтам Польшчы.

Пасля 1989 г. “Салідарнасць” вярнулася да сваёй асноўнай, прафсаюзнай дзейнасці, аднак, у 1996 г. яе актывістамі было створана палітычнае аб'яднанне – “Перадвыбарная акцыя Салідарнасці”, якое ў 1997 г. атрымала перамогу на парламенцкіх выбарах. Зрэшты, на наступных выбарах 2001 г. “Перадвыбарная акцыя Салідарнасці” атрымала паразу і фактычна сышла са сцэны.

З'яўленне “Салідарнасці” мела значэнне не толькі для Польшчы, але і для ўсяго ўсходняга блоку, паколькі было першым у сацыялістычных краінах аформленым масавым антыкамуністычным аб'яднаннем (у адрозненне ад падзей 1956 г. у Венгрыі, дзе меў месца стыхійны пратэст і вялікая колькасць разрозненых невялікіх палітычных дыквазіпалітычных арганізацый, і ад падзей 1968 г. ў Чэхаславакіі, дзе лакаматывам рэформ выступала кіруючая Камуністычная партыя Чэхаславакіі).

**Лех Валенса -** польскі палітычны дзеяч, актывіст і абаронца правоў чалавека, ранейшы кіраўнік незалежнага прафсаюза “Салідарнасць”, электрык.

Сын цесляра, Валенса працаваў электрыкам на Гданьскай судаверфі. У 1980 г. стварыў першы ва Усходняй Еўропе свабодны, непадкантрольны дзяржаве прафсаюз – "Салідарнасць".

Звальненне Валенсы за актыўную прафсаюзную дзейнасць нараўне з недахопам харчавання і ростам коштаў прывяло ў 1980 і 1981 гг. да страйкаў, якія надалі шырокую падтрымку "Салідарнасці" у розных пластах грамадства і вымусілі ўрад пайсці на шэраг саступак, у тым ліку прызнанне за працоўнымі права на свабоднае аб'яднанне ў прафсаюзы.

У канцы 1981 года рэжым генерала Войцэха Ярузэльскага абвясціў "Салідарнасць" па-за законам, і Валенса быў кінуты ў турму амаль на цэлы год.

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1983 г. за дзейнасць у падтрымку правоў працоўных, Валенса граў галоўную ролю ў перамовах з урадам у 1988 і 1989 гг., вынікам якіх стала легалізацыя "Салідарнасці" і іншых прафсаюзаў, а таксама праклаў шлях да прыходу да ўлады сацыял-дэмакратыі.

На прэзідэнцкіх выбарах 1990 г. Валенса, пасля вялікай перамогі, быў абраны прэзідэнтам Польшчы ў другім туры, набраўшы 74,25 % галасоў. Перад ім стаялі цяжкія праблемы палітычнай нестабільнасці і пераходу Польшчы да свабоднай рынкавай эканомікі.

У 1995 г. Валенса прайграў выбары Аляксандру Квасьнеўскаму і ў 1996 г. вярнуўся на сваю былую працу электрыка на судаверфі.

TRANSITION

Asociace pro mezinárodní otázky
Association for International Affairs

**<u>Дататак 8</u>**

**Прававы статус чалавека і грамадзяніна**

1. Свабода слова належыць да такой групы правоў і свабод грамадзян Рэсрублікі Беларусь, як:

а) грамадзянскія (асабістыя) і палітычныя,

б) сацыяльныя,

в) эканамічныя,

г) культурныя.

2. Свабода меркаванняў і перакананняў належыць да такой групы правоў і свабод грамадзян РБ, як:

а) грамадзянскія (асабістыя),

б) палітычныя,

в) сацыяльна-эканамічныя,

г) культурныя.

3. Права на свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы належыць да такой групы правоў і свабод грамадзян РБ, як:

а) грамадзянскія (асабістыя),

б) палітычныя,

в) сацыяльна-эканамічныя,

г) культурныя.

4. Абарона Рэспублікі Беларусь належыць да:

а) правоў грамадзяніна,

б) абавязкаў грамадзяніна,

в) свабод грамадзяніна,

г) каштоўнасцяў чалавека і грамадзяніна.

5. Абмежаванне правоў і свабод грамадзян РБ згодна з Канстытуцыяй дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, а таксама:

а) у выпадках канкурэнцыі ва ўмовах рынкавых эканамічных зносін,

б) у інтарэсах дзейных палітычных партый, грамадскіх арганізацый і рухаў,

в) у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны нораваў, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых грамадзян,

г) згодна з ідэалогіяй афіцыйных дзяржаўных рэлігійных канфесій.

6. Грамадзянін Рэспублікі Беларусь можа стаць сябрам палітычнай партыі з:

а) 14 год,

б) 16 год,

в) 18 год,

г) 21 года.

7. Прынцып прэзумпцыі невінаватасці гаворыць:

а) абвінавачаны лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго віна не будзе даказана судом і згодна з законам,

б) віна грамадзяніна РБ заўжды меншая, чым замежных грамадзян,

в) апеляцыя, якая пададзена паўторна, не можа быць адхілена судовым органам,

г) усё вышэйзгаданае.

8. Свабода асацыяцый не азначае магчымасці стварэння:

а) палітычных партый, якія шануюць канстытуцыю,

б) арганізацый, мэтай якіх з'яўляецца негвалтоўная змена канстытуцыйнага ладу,

в) аб'яднання на аснове агульнасці нацыянальных інтарэсаў,

г) аб'яднання асобаў, якія маюць агульныя прафесійныя інтарэсы.

9. Свабода слова не азначае:

а) права свабодна выражаць сваё меркаванне,

б) права свабодна шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю,

в) адсутнасць цэнзуры,

г) права на выступ на карысць нацыянальнай, расавай ці рэлігійнай нянавісці.

10. Свабода сходаў не азначае магчымасці:

а) збірацца для абмеркавання агульных інтарэсаў,

б) збірацца для выяўлення пры дапамозе плакатаў і прамоваў пратэсту супраць палітыкі ўрада,

в) збірацца на мітынг са зброяй у руках,

г) правядзенне вулічных шэсцяў, мітынгаў і дэманстрацый.

11. Не з'яўляецца законным абмежаваннем палітычных свабод забарона:

а) прапаганды вайны,

б) стварэнне арганізацый, якія дабіваюцца змен канстытуцыйнага ладу,

в) стварэнне арганізацый, якія маюць на мэце парушэнне тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь,

г) выступ на карысць нацыянальнай, полавай ці рэлігійнай нянавісці.

12. Не з'яўляецца законным абмежаванне палітычных свабод забарона:

а) збору са зброяй у руках,

б) падбухторвання да дыскрымінацыі, варожасці і гвалту,

в) крытыкі палітыкі ўраду.

**Дадатак 9**

## Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека

*http://www.lexilogos.com/declaration/bielorusse.htm*

**Прэамбула**

Прымаючы пад увагу, што прызнанне годнасці, якая ўласціва ўсім членам чалавечай сям'і, і роўных і неад'емных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру; і

прымаючы пад увагу, што грэбаванне і пагарда да правоў чалавека прывялі да варварскіх актаў, якія абураюць сумленне чалавецтва, і што стварэнне такога свету, у якім людзі будуць мець свабоду слова і перакананняў і будуць свабодныя ад страху і галечы, абвешчана як высокае імкненне людзей; і

прымаючы пад увагу, што неабходна, каб правы чалавека ахоўваліся ўладай закону з мэтай забеспячэння таго, каб чалавек не быў вымушаны ўжываць, у якасці апошняга сродку, паўстання супроць тыраніі і прыгнечання; і

прымаючы пад увагу, што неабходна садзейнічаць развіццю дружалюбных адносін паміж народамі; і

прымаючы пад увагу, што народы Аб'яднаных Нацый пацвердзілі ў Статуце сваю веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы і ў раўнапраўе мужчын і жанчын і вырашылі садзейнічаць сацыяльнаму прагрэсу і паляпшэнню ўмоў жыцця пры большай свабодзе; і

прымаючы пад увагу, што дзяржавы-члены абавязаліся садзейнічаць, у супрацоўніцтве з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, усеагульнай павазе і захаванню правоў чалавека і асноўных свабод; і

прымаючы пад увагу, што ўсеагульнае разуменне характару гэтых правоў і свабод мае велізарнае значэнне для поўнага выканання гэтага абавязацельства:

ГЕНЕРАЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ абвяшчае гэту Ўсеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы з тым, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, увесь час маючы на ўвазе гэту Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць павазе гэтых правоў і свабод і забеспячэнню, шляхам нацыянальных і міжнародных прагрэсіўных мерапрыемстваў, усеагульнага і эфектыўнага прызнання і ажыццяўлення іх як сярод народаў дзяржаў-членаў Арганізацыі, так і сярод народаў тэрыторый, што знаходзяцца пад іх юрысдыкцыяй.

*Артыкул 1.*

Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.

*Артыкул 2.*

Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, што абвешчаны гэтай Дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як напрыклад у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага або іншага становішча.

Апрача таго, не павінна рабіцца ніякага адрознення на аснове палітычнага, прававога або міжнароднага статуса краіны або тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэта тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіравальнай, або як-небудзь інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце.

*Артыкул 3.*

Кожны чалавека мае права на жыццё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасць.

*Артыкул 4.*

Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве або ў паднявольным стане; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх іх выглядах.

*Артыкул 5.*

Ні над кім не павінны ўчыняцца катаванні або жорсткія, бесчалавечныя або ўніжаючыя яго годнасць абыходжанне і пакаранне.

*Артыкул 6.*

Кожны чалавек, дзе б ён ні знаходзіўся, мае права на прызнанне яго правасуб'ектнасці.

*Артыкул 7.*

Усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усякага адрознення, на роўную абарону закону. Усе людзі маюць права на роўную ахову ад якой бы там ні было дыскрымінацыі, што парушае гэту Дэкларацыю, і ад якога б там ні было падбухторвання да такой дыскрымінацыі.

*Артыкул 8.*

Кожны чалавек мае права на эфектыўнае аднаўленне ў правах кампетэнтнымі нацыянальнымі судамі ў выпадках парушэння яго асноўных правоў, якія дадзены яму канстытуцыяй або законам.

*Артыкул 9.*

Ні над кім не павінны ўчыняцца самавольны арышт, затрыманне або выгнанне.

*Артыкул 10.*

Кожны чалавек, для вызначэння яго правоў і абавязкаў і для ўстанаўлення абгрунтаванасці прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачання, мае права, на падставе поўнай роўнасці, на тое, каб яго справа была разгледжана публічна і з захаваннем усіх патрабаванняў справядлівасці незалежным і непрадузятым судом.

*Артыкул 11.*

1. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ў злачынстве, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго вінаватасць не будзе ўстаноўлена законным парадкам шляхам публічнага судовага разбору, пры якім яму забяспечваюцца ўсе магчымасці для абароны.

2. Ніхто не можа быць асуджаны за злачынства на падставе ўчынення якога-небудзь дзеяння або за бяздзеянне, якія ў час іх учынення не з'яўляліся злачынствам па нацыянальных законах або па міжнароднаму праву. Не можа таксама накладацца пакаранне больш цяжкае, чым тое, якое магло быць ужыта ў той час, калі злачынства было зроблена.

*Артыкул 12.*

Ні над кім не павінны ўчыняцца самавольнае ўмяшанне ў яго асабістае і сямейнае жыццё, самавольны замах на недатыкальнасць яго жылля, тайну яго карэспандэнцыі або на яго гонар і рэпутацыю. Кожны чалавек мае права на абарону закону ад такога ўмяшання або такіх замахаў.

*Артыкул 13.*

1. Кожны чалавек мае права свабодна перамяшчацца і выбіраць сабе месцапражыванне ў межах кожнай дзяржавы.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну.

*Артыкул 14.*

1. Кожны чалавек мае права шукаць прыстанішча ад праследавання ў іншых краінах і карыстацца гэтым прыстанішчам.

2. Гэта права не можа быць выкарыстана ў выпадку праследавання, сапраўды заснаванага на ўчыненні непалітычнага злачынства, або дзеяння, што супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

*Артыкул 15.*

1. Кожны чалавек мае права на грамадзянства.

2. Ніхто не можа быць самавольна пазбаўлены свайго грамадзянства або права змяніць сваё грамадзянства.

*Артыкул 16.*

1. Мужчыны і жанчыны, якія дасягнулі паўналецця, маюць права без усякіх абмежаванняў, незалежна ад расы, нацыянальнасці або рэлігіі, браць шлюб і засноўваць сям'ю. Яны карыстаюцца аднолькавымі правамі ў адносінах узяцця шлюбу, у час знаходжання ў шлюбе і ў час яго скасавання.

2. Шлюб можа быць заключаны толькі пры свабоднай і поўнай згодзе абодвух бакоў, што бяруць шлюб.

3. Сям'я з'яўляецца натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадства і мае права на абарону з боку грамадства і дзяржавы.

*Артыкул 17.*

1. Кожны чалавек мае права валодаць маёмасцю як аднаасобна, так і сумесна з іншымі.

2. Ніхто не павінен быць самавольна пазбаўлены сваёй маёмасці.

*Артыкул 18.*

Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі; гэта права ўключае свабоду мяняць сваю рэлігію або перакананні і свабоду спавядаць сваю рэлігію або перакананні як аднаасобна, так і разам з іншымі, публічным або прыватным парадкам у вучэнні, богаслужэнні і выкананні рэлігійных і рытуальных абрадаў.

*Артыкул 19.*

Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.

*Артыкул 20.*

1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

2. Ніхто не павінен прымушацца ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю.

*Артыкул 21.*

1. Кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраванні сваёй краінай непасрэдна або пры дапамозе свабодна выбраных прадстаўнікоў.

2. Кожны чалавек мае права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне.

3. Воля народа павінна быць асновай улады ўрада; гэта воля павінна знаходзіць сабе выяўленне ў перыядычных і нефальсіфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным і роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасавання або пры дапамозе іншых раўназначных форм, што забяспечваюць свабоду галасавання.

*Артыкул 22.*

Кожны чалавек, як член грамадства, мае права на сацыяльнае забеспячэнне і на ажыццяўленне неабходных для падтрымання яго годнасці і для свабоднага развіцця яго асобы правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах пры дапамозе нацыянальных намаганняў і міжнароднага супрацоўніцтва і ў адпаведнасці са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы.

*Артыкул 23.*

1. Кожны чалавек мае права на працу, на свабодны выбар працы, на справядлівыя і добрыя ўмовы працы і на ахову ад беспрацоўя.

2. Кожны чалавек, без якой-небудзь дыскрымінацыі, мае права на роўную аплату за роўную працу.

3. Кожны, хто працуе, мае права на справядлівую і здавальняючую ўзнагароду, якая забяспечвае вартае чалавека існаванне для яго самога і яго сям'і, і дапаўняецца, пры неабходнасці, іншымі сродкамі сацыяльнага забеспячэння.

4. Кожны чалавек мае права ствараць прафесіянальныя саюзы і ўступаць у прафесіянальные саюзы для аховы сваіх інтарэсаў.

*Артыкул 24.*

Кожны чалавек мае права на адпачынак і вольны час, уключаючы права на разумнае абмежаванне працоўнага дня і на перыядычны водпуск, які аплачваецца.

*Артыкул 25.*

1. Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харч, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае сацыяльнае абслугоўванне, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і, і права на забеспячэнне на выпадак беспрацоўя, хваробы, інваліднасці, удоўства, надыходу старасці або іншага выпадку страты сродкаў да існавання па незалежачых ад яго акалічнасцях.

2. Мацярынства і дзяцінства даюць права на асобую апеку і дапамогу. Усе дзеці, якія нарадзіліся ў шлюбе або па-за шлюбам, павінны карыстацца аднолькавай сацыяльнай абаронай.

*Артыкул 26.*

1. Кожны чалавек мае права на адукацыю. Адукацыя павінна быць бясплатнай па меншай меры ў тым, што датычыць пачатковай і агульнай адукацыі. Пачатковая адукацыя павінна быць абавязковай. Тэхнічная і прафесіянальная адукацыя павінна быць агульнадаступнай і вышэйшая адукацыя павінна быць аднолькава даступнай для ўсіх на падставе здольнасцей кожнага.

2. Адукацыя павінна быць накіравана да поўнага развіцця чалавечай асобы і да павелічэння павагі да правоў чалавека і асноўных свабод. Адукацыя павінна садзейнічаць узаемаразуменню, цярпімасці і дружбе паміж усімі народамі, расавымі або рэлігійнымі групамі, і павінна садзейнічаць дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па падтрыманню міру.

3. Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей.

*Артыкул 27.*

1. Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцці грамадства, цешыцца мастацтвам, удзельнічаць у навуковым прагрэсе і карыстацца яго дабротамі.

2. Кожны чалавек мае права на ахову яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў, што з'яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных або мастацкіх прац, аўтарам якіх ён з'яўляецца.

*Артыкул 28.*

Кожны чалавек мае права на сацыяльны і міжнародны парадак, пры якім правы і свабоды, што выкладзены ў гэтай Дэкларацыі, могуць быць цалкам ажыццёўлены.

*Артыкул 29.*

1. Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадствам, у якім толькі і магчыма свабоднае і поўнае развіццё яго асобы.

2. Пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабод кожны чалавек павінен спазнаць толькі такія абмежаванні, якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай забеспячэння належнага прызнання і павагі правоў і свабод другіх і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве.

3. Ажыццяўленне гэтых правоў і свабод ні ў якім разе не павінна супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

*Артыкул 30.*

Нішто ў гэтай Дэкларацыі не можа быць вытлумачана, як прадастаўленне якой-небудзь дзяржаве, групе асоб або асобным людзям

права займацца якой-небудзь дзейнасцю або ўчыняць дзеянні, накіраваныя да знішчэння правоў і свабод, што выкладзены ў гэтай Дэкларацыі.